*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА


Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ № 10 (170) ◈ 9 сакавіка 1994 г. ◈ Кошт — 20 рублёў.




## ПОСТУП ТЫДНЯ

*1 САКАВІКА СТАЛІ ВЯДОМЫ КАНЧАТКОВЫЯ ВЫНІКІ ГАЛАСАВАННЯ ІМЯННЫМІ БЮЛЕТЭНЯМІ ПА ТРОХ АСНОЎНЫХ РАЗДЗЕЛАХ КАНСТЫТУЦЫІ, якія вызначаюць паўнамоцтвы заканадаўчай, выканаўчай і мясцовай улады. У галасаванні прынялі ўдзел 296 дэпутатаў, з іх 266 выказаліся за моцную прэзідэнцкую ўладу. Як паведаміў Белінфарм, пасля завяршэння працэдуры галасавання члены падліковай камісіі на прэс-канферэнцыі аб'явілі, што выбары першага прэзідэнта Беларусі трэба правесці не пазней чым 26 чэрвеня гэтага года.*

◆◆◆

У МІНІСТЭРСТВЕ ЮСТЫЦЫІ ПАД НУМАРАМ 646 ЗАРЭГІСТРАВАНЫ СТАТУТ БЕЛАРУСКАЙ ПАРТЫІ ПРАЦЫ. Заснавальны з'езд БПП адбыўся 25 лістапада мінулага года па ініцыятыве Асацыяцыі Незалежных прафсаюзаў прамысловасці.

◆◆◆

*ПАЧАЛАСЯ ПАСТАЎКА У БЕЛАРУСЬ ГУМАНІТАРНАЙ ДАПАМОГІ З ІТАЛІІ. Ці атрымаюць яе тыя, каму яна патрэбна?*

◆◆◆

ПАД СТАРШЫНСТВАМ МЯЧЭСЛАВА ГРЫБА АДБЫЛОСЯ ПАСЯДЖЭННЕ САВЕТА БЯСПЕКІ. Абмеркавана пазіцыя Рэспублікі Беларусь адносна прапановы Францыі па заключэнні Еўрапейскага пакта стабільнасці і ініцыятывы НАТО «Партнёрства дзеля міру». Савет Бяспекі, выказаўшы зацікаўленасць Беларусі да гэтых ініцыятыў, даў даручэнне адпаведным ведамствам па дэталёваму іх вывучэнню.

◆◆◆

*БЕЛАРУСКАЯ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ БІБЛІЯТЭКА ўступіла ў міжнародную інфармацыйную сістэму Камісіі ААН па харчаванню і сельскай гаспадарцы — АГРІС.*

◆◆◆

ПА РАСІЙСКІМ ТЭЛЕБАЧАННІ 3 САКАВІКА зноў прагучала папярэджанне Беларусі, што калі не будзе аплачаны доўг за пастаўкі газу, то больш нам яго не дадуць.

◆◆◆

*ГЕНЕРАЛЬНАЕ КОНСУЛЬСТВА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, якое адкрылася ў пачатку лютага ў Даўгаўпілсе, пачало прыём грамадзян. Яго кіраўнік Анатоль Жалтоўскі стаў першым акрэдытаваным тут замежным дыпламатам.*

◆◆◆

ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА! Да канца падпіскі на «Наша слова» засталіся лічаныя дні. Спяшайцеся! Кошт падпіскі на адзін месяц — 150 рублёў, на квартал — 450 рублёў. Наш індэкс — 63865.



## *Са святам Сакавіка Вас, жанчыны!*

## *Дай Бог Вам шчасця і святла!*

*3 САКАВІКА НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРЫНЯТЫ 17-ТЫ АРТЫКУЛ КАНСТЫТУЦЫІ («за» прагаласаваў 251 дэпутат), які гучыць наступным чынам: «Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова. Рэспубліка Беларусь забяспечвае права свабоднага выкарыстання рускай мовы як сродку міжнацыянальных зносін».*

*РЭХА*

## Генерал-дэпутат загадвае атакаваць беларускае Адраджэнне

У вярхоўным Савеце ведаюць, каму адключаць мікрафон. Напрыклад, калі выступаў дэпутат ад ветэранскай арганізацыі Сарокін, дык яму была нават дадзена магчымасць гаварыць даўжэй, чым прадугледжана рэгламентам. Праблема «животрепещущая»:трэба ж было генералу паспець не толькі закляйміць у каторы раз беларускіх «националистов», але і даць разгорнуты загад, па якіх пазіцыях іх эфектыўна атакаваць. На гэты раз вырашана «разбамбіць» Міністэрства адукацыі: як быццам бы там спрыяюць абуджэнню ў школьнікаў «антырускіх настрояў». Бо не перашкаджаюць публікацыям матэрыялаў, якія вучаць любіць і паважаць уласную Радзіму, Беларусь. У сваім адказе на гэты чарговы выпад народны дэпутат Ніл Гілевіч адзначыў: «Сапраўдная мэта тых, ад чыйго імя выступіў дэпутат Сарокін,— спыніць працэс нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. Пакуль ён не набраў сілы — з ім трэба пакончыць! А то і сапраўды можна страціць такі прывабны кавалак «единой и неделимой»... Таварышы выдатна разумеюць: будзе беларуская школа — будзе ўсё: і беларуская мова, і беларуская культура, і беларускае справаводства, і беларуская нацыянальная і гістарычная самасвядомасць, і як вынік — будзе беларуская дзяржава».

Ніл Гілевіч таксама напомніў, што лозунг, пад якім заклікаў генерал-дэпутат Сарокін да паходу «беларускіх нацыяналістаў», вядомы даўно — з пачатку 30-х гадоў, і ўсім вядома, што гэта скончылася на практыцы знішчэннем самых сумленных, самых таленавітых, самых выдатных дачок і сыноў беларускага народа, а ўрэшце пайшлі ў магілу многія з тых, хто памагаў «суддзям», і «з тых, хто гэты зверскі, самапраўны суд чынілі».

Ул. АС.

## 42 падпісчыкі «Нашага слова» ў адной школе

Вельмі чакаюць і ўважліва чытаюць кожны нумар «Нашага слова» сябры суполкі ТБМ імя Францішка Скарыны СШ № 15 г. Гомеля.

У гэтым годзе на газету падпісаліся аж 42 вучні нашай школы. Артыкулы, змешчаныя ў газеце «Наша слова», дапамагаюць пры вывучэнні гісторыі нашай Бацькаўшчыны, выхоўваюць любоў і пашану да роднага слова.

Саша ГАРЫЦКІ,
сябра суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны, вучань СШ № 15 г. Гомеля.

## Крывое не выпрастаць

*25 студзеня г. г. ў «Народнай газеце» быў апублікаваны артыкул старшыні Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці (РППС), народнага дэпутата Вярхоўнага Савета Анатоля Нятылькіна «Мы за працу і сацыяльную справядлівасць». Матэрыял гэты замешаны на славеснай эквілібрыстыцы, уквечаны ён і сафістыкай з папулісцкай прынадай.*

Відаць, для таго, каб увесці ў зман недасведчаных у палітычнай сітуацыі на Беларусі, Нятылькін крытыкуе і тых, хто выступае за нацыянальнае адраджэнне, і тых, хто дамагаецца рэстаўрацыі старых парадкаў. Але ўсё ж артыкул перапоўнены настальгіяй па мінулым. Гэта падкрэслена абурэннем аўтара на падручнік па гісторыі Беларусі для вучняў чацвёртага класа «Беларусь — мая Радзіма». Нятылькіну не даспадобы, што там «няма ні слова пра Кіеўскую Русь, дзе нарадзіліся, сфарміраваліся, выстаялі ў вяках велікарусы, маларусы і беларусы». Такім чынам перад намі — рудымент заскарузлага мыслення, погляд са званіцы абэцэдаршчыны на гісторыю Беларусі, калі героямі паказваліся нашы заваёўнікі.

Нятылькін зацята выступае ў «абарону правоў» чалавека на міжнародным узроўні і тут жа безапеляцыйна патрабуе: «Свабоду выбару навучання з абавязковым вывучэннем беларускай мовы як дзяржаўнай». Відаць, кароткая памяць у дэпутата Нятылькіна, калі ён не памятае, да якога стану давёў роднае слова так званы «свабодны выбар мовы навучання». Аўтар нібыта не разумее, што згаданы тэзіс пры сучасным стане беларускай мовы на практыцы азначае працяг татальнай русіфікацыі. Што да свабоды выбару мовы навучання згодна з «міжнароднымі правамі», то варта згадаць пункт трэці 26 артыкула «Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека», дзе, у прыватнасці, запісана: «Бацькі маюць права ў выбары віду адукацыі для сваіх малалетніх дзяцей». Нельга падмяняць паняцце «выбар віду навучання» паняццем «выбар мовы навучання».

Выступаючы ў ролі абаронцы рускамоўнага насельніцтва Беларусі, Нятылькін дэманстратыўна лямантуе: ратуйце, беларускія нацдэмы хочуць асіміляваць Расію! Ён нібыта не ведае, што такіх умоў, якія зараз створаны на Беларусі для усяго насельніцтва па вывучэнні рускай мовы, не маюць, на жаль, карэнныя беларусы, каб засвоіць мову сваю. Бароннячы рускамоўнае насельніцтва ад уяўнай «беларусізацыі», Нятылькін, зразумела, слова не сказаў у абарону нацыянальнага адраджэння, вяртання нашаму народу яго гістарычнай спадчыны, развіцця нацыянальнай культуры, выратавання роднага слова, умацавання беларускага суверэнітэту. Але, што зробіш, такі ўжо духоўны свет народных дэпутатаў з парламенцкай большасці ў нашым Вярхоўным Савеце.

Саўковая закамплексаванасць перашкаджае Нятылькіну разам з «таварышамі» ў Вярхоўным Савеце пазбавіцца рабскай псіхалогіі духоўных кайданаў мінуўшчыны, не дазваляе ім глянуць на свет новымі вачыма. А свет, сапраўды, змяніўся. Змяніўся, падкрэслю, не на карысць рэтраградам. Відаць, меў рацыю біблейскі філосаф Эклезіяст, калі папярэдзіў: «Крывое не можа выпрастацца!».

Васіль СОКАЛ.

*ЖЫЦЦЁ ТАВАРЫСТВА*

# ЗБЕРАГЧЫ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ АДМЕТНАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## *Пастанова Гродзенскай абласной і Гродзенскай гарадской радаў ТБМ*

*Гродзенскія абласная і гарадская рады ТБМ абмеркавалі «Выніковы дакумент Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненні правапісу беларускай літаратурнай мовы», апублікаваны ў друку («Наша слова», 2 лютага 1994 года), і прыйшлі да наступнай высновы:*

1. Ухваліць прапанаваныя ўдакладненні, не падзяляючы разам з тым імкненне камісіі пакінуць «савецкія» формы накшталт *выканком, аграпром, Жанна, Сюзанна*.

2. Лічыць, што прапанаваныя камісіяй удакладненні закранулі толькі невялікую частку дэрусіфікацыі беларускага правапісу.

У выніковым дакуменце камісіі не знайшлі адлюстравання найбольш патрэбныя і важныя змены, накіраваныя на адраджэнне духу беларускай нацыянальнай мовы.

Удзельнікі сходу прапануюць пашырыць склад Дзяржаўнай камісіі, увесці ў яе навукоўцаў і практыкаў з альтэрнатыўнымі поглядамі на неабходнасць змен сучаснага правапісу беларускай мовы і працягнуць яе працу па адлюстраванні на пісьме такіх адметных з'яў беларускай мовы, як:

аканне, пашырыўшы яго на іншамоўныя словы ва ўсіх ненаціскных складах (а не толькі на канцавыя спалучэнні асновы -эр, -эл(ь), пакінуўшы пачатковыя э, дэ-, рэ- (*элегія, дэмантаж, рэарганізацыя*);

адлюстраваць на пісьме яканне і ў іншамоўных словах (*лягенда, мядаль, іярогліф*);

спалучэнні -іё, -ія пісаць і ў пачатку слова (*іён, іянізацыя, Іярданія*);

уніфікаваць правапіс канчаткаў назоўнікаў роднага склону множнага ліку, аддаўшы перавагу форме з канчаткам -аў (-яў), -оў (*вежаў, межаў, ступеняў, гадоў, азёраў*);

пашырыць напісанне формаў з канчаткам -у ў назоўніках мужчынскага роду роднага склону адзіночнага ліку (*інстытуту, камітэту, гораду*);

пісаць без мяккага знака імёны па бацьку (*Арсеневіч, Васілевіч, Вікенцевіч*);

пісаць афіцыйныя імёны без канчаткаў -ій, -ый (*Васіль, Георг*);

пісаць пазычаныя тэрміны без канчаткаў -ій, -ый (*бар, магнезь*);

пісаць устаўное а ў канцавых спалучэннях зычных з санорнымі л, р (*Аляксандар, ансамбаль, цэнтар*);

пісаць, як правіла, дзеяслоўныя формы без іншамоўнага элемента -ір (-ыр-) (*унармаваць, дыферэнцыяваць, праграмаваць*).

**Прынята на пасяджэнні Гродзенскай абласной і Гродзенскай гарадской радаў ТБМ 12 лютага 1994 г.**

*Бялыніцкія навіны*

# Карысныя сустрэчы

***У праграме месячніка нацыянальнай культуры, які нядаўна завяршыўся ў сярэдняй школе № 2 райцэнтра, адбыліся дзве сустрэчы вучняў з заслужаным дзеячам культуры Рэспублікі Беларусь, сябрам рады раённага аддзялення ТБМ імя Ф. Скарыны В. І. Ермаловічам.***

***На першым спатканні з дзесяцікласнікамі Валянцін Іванавіч засяродзіў увагу хлопцаў і дзяўчат на неабходнасці пашырэння і паглыблення ведаў пра мінуўшчыну роднай Бацькаўшчыны, грунтоўнага вывучэння багатай і разнастайнай нацыянальнай культурнай спадчыны. Свой цікавы і змястоўны аповяд спадар Ермаловіч аздобіў чытаннем патрыятычных вершаў Янкі Купалы, Алеся Гаруна, Аляксея Пысіна. З увагай слухала зала ў выкананні В. Ермаловіча і ўрывак з бессмяротнай паэмы Якуба Коласа «Новая зямля».***

***У гэтай жа школе В. І. Ермаловіч сустракаўся і з васьмікласнікамі, якія зараз паглыблена вывучаюць беларускую мову і літаратуру. Думаецца, што ў памяці вучняў гэта сустрэча, якая мела назву «Беларускі гумар», захаваецца на доўгі час. Валянцін Іванавіч памайстэрску прачытаў гумарыстычныя, сатырычныя вершы і байкі Я. Коласа, К. Крапівы, Н. Гілевіча, апавяданне «Дзед Язэп і Палашка» М. Лынькова, творы такога жанру іншых беларускіх пісьменнікаў. Пэўны час урока быў прысвечаны і народнаму гумару, які па сіле свайго эмацыянальнага ўздзеяння, мудрасці і павучальнасці можна параўнаць з шырокавядомым габрайскім.***

**М. КАРПЕНКА.**

*Рэха*

# Праклінаю сталіншчыну

У газеце «Літаратура і мастацтва» 15 кастрычніка мінулага года быў змешчаны сакрэтны ліст першага сакратара ЦК КПБ П. К. Панамарэнкі Сталіну пад назвай «За парадай да «бацькі» Сталіна». Як цяпер стала вядома, у 30-я гады ў рабоце ЦК КП Беларусі практыкавалася інфармацыя Сталіна аб выкрыцці «ворагаў народа». У сакрэтным лісце ад 21 лістапада 1938 года, № 978, надрукаваным ЛіМам, Панамарэнка піша Сталіну, што ворагі народа, якія прабраліся ў свой час да партыйнага і савецкага кіраўніцтва Беларусі, ставяць сваёй мэтай адарваць Беларусь ад Савецкага Саюза і стварыць самастойную беларускую дзяржаву. Такія ворагі ёсць сярод настаўнікаў, аграномаў, урачоў, артыстаў, пісьменнікаў. Кіруюць гэтай дзейнасцю беларускія пісьменнікі Янка Купала, Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Броўка, Глебка, Вольскі, Аксельрод і іншыя. Гэта нацдэмаўцы.

Панамарэнка далей паведамляе Сталіну, што ў Беларусі прапагандуецца самабытнасць беларускай мовы, ідэалізуецца «Залаты век» — калі Беларуссю кіравалі князі, прапаведваецца бескласавасць беларускага грамадства — адсутнасць на Беларусі буржуазіі.

Адзначу, што тады рэпрэсійная машына ў СССР ужо працавала поўным ходам, і Панамарэнка вырашыў знішчыць вядучую праслойку беларускай інтэлігенцыі. У бязлітасныя жорны гэтай машыны трапілі наша мова, культура і сама чалавечая годнасць беларусаў.

Асабліва глумленне тады вялося над беларускай мовай. Яе ўсяляк штучна злівалі з рускай. Панамарэнка, як бачна са згаданага пісьма да Сталіна, прапаноўваў шэраг беларускіх слоў зусім выкінуць са слоўнікаў, замяніць іх словамі рускімі, каб паступова ўсю адукацыю на Беларусі перавесці на мову «старэйшага брата».

Ажыццяўленне індустрыялізацыі, калектывізацыі і «культурнай» рэвалюцыі ўвасаблялася ў жыццё татальнымі рэпрэсіямі. У Беларусі было «раскулачана» 15 тысяч 639 сем'яў. А ўсяго ў часы сталіншчыны ў нас было рэпрэсіравана 2 мільёны 400 тысяч чалавек. Сярод іх — 238 беларускіх пісьменнікаў, якіх высылалі ў лагеры, везлі этапамі на Поўнач і ў Сібір, расстрэльвалі ў Курапатах.

На ўсёй нашай планеце яшчэ ніколі не было больш крывавага, антычалавечага рэжыму, чым сталінскі. Сёння чамусьці ўсіх ветэранаў прынята лічыць калі не сталіністамі, то людзьмі старога, заімшэла-дагматычнага мыслення. Я лічу, што гэта далёка не так, бо любы сумленны чалавек, які пражыў шмат гадоў, не можа не асуджаць сталіншчыну. А сам я сталіншчыну праклінаю!

Генадзь ЛАНЕЎСКІ,
ветэран вайны і працы,
інвалід Айчыннай вайны,
сябра менскага клуба
«Спадчына».

# Тон задаў старшыня калгаса

У Нясвіжы адбылася канферэнцыя раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы. У цікавым і змястоўным дакладзе старшыні раённай арганізацыі Галіны Віктараўны Макаўчук адзначалася, што ў раёне ўжо створана за 15 суполак. У асноўным у школах і гандлёвых арганізацыях. Але самая мнагалюдная суполка дзейнічае ў калгасе «Новае жыццё». Гэтую суполку на канферэнцыі прадстаўляў сам старшыня гаспадаркі Міхаіл Васільевіч Салянік, чалавек вядомы як здольны арганізатар не толькі ў раёне, але і ў рэспубліцы. Ён жа і задаў тон усёй канферэнцыі. Выступаў Міхаіл Васільевіч на выдатнай беларускай мове, казаў годна і па справе. Дарэчы, і ўсе астатнія аратары, а іх было дзесяць, таксама гаварылі па-беларуску.

Удзельнікі канферэнцыі зацвердзілі план далейшай дзейнасці раённай суполкі ТБМ і абралі старшынёю і надалей даверылі Галіне Віктараўне Макаўчык.

**М. ВАЛЬКО.**

# Дзякуючы энтузіязму ТБМ

*Вялікую цікавасць у жыхароў Светлагорска выклікала дзейнасць філіі Беларускага гуманітарна-адукацыйнага цэнтра, работа якой пачалася з лістапада мінулага года. Навучанне вядзецца ў форме нядзельнага ліцэя. Вучням (а іх набралася нават больш задуманага — 29) паглыблена выкладаюцца беларуская мова і літаратура, гісторыя мастацтва і літаратуры, асновы псіхалагічнага трэнінгу і нават італьянская мова.*

*Усё гэта стала магчымым дзякуючы энтузіязму мясцовай рады ТБМ і актывістам Беларускага народнага фронту, а таксама дзейснай падтрымцы з боку старшыні гарадскога Савета народнага дэпутата Беларусі Аляксандра Якабсона.*

Мікола ПАСЕДЗЬКА.

Рэха



МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ АКАДЭМІЧНЫ ТЭАТР імя ЯНКІ КУПАЛЫ
220030, Мінск, Энгельса, 7

MINISTRY of CULTURE of the REPUBLIC BELARUS
THE BYELORUSSIAN STATE ACADEMIC THEATRE named after YANKA KUPALA
Engels str.,7, Minsk, 220030



29 октября 1993 г. №340 С П Р А В К А

в том, что он действительно работает в Белгосакадемтеатре им. Янки Купалы с 27.05.74 года, артистом высшей категории и его должностной оклад на 1.11.83 года составляет Разовая концертная ставка

Справка дана для предоставления по месту требования.

Директор театра [signature] И.И.Рашкевич
Главный бухгалтер [signature] Р.Ф.Абатурина

# З каго браць прыклад?

Напісаць у рэдакцыю мяне прымусіў артыкул «З якога тэатра Лілія Давідовіч?», які быў надрукаваны ў сёмым нумары «Нашага слова».

Перш-наперш хачу крыху расказаць аб моўным становішчы ў нашым Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я. Купалы, які павінен прапагандаваць беларускае слова, далучаць да матчынай мовы грамадзян нашай краіны. У высокім прафесіяналізме акцёраў і рэжысёраў тэатра я не сумняваюся. Пастаноўкі «купалаўцаў» устойліва карыстаюцца вялікай папулярнасцю не толькі ў гледачоў Беларусі, але і іншых краін свету.

У той жа час нельга не адзначыць, што сярод акцёраў, рэжысёраў і дапаможнага персанала нацыянальнага тэатра дагэтуль пануе расійская мова. Амаль увесь тэатральны калектыў размаўляе па-расійску, нават рэпетыцыі новых спектакляў ідуць на расійскай мове. Да слова, дакументацыя ў тэатры таксама вядзецца на расійскай мове. І вельмі непрыемна глядзець, як на афіцыйным бланку тэатра пад адбіткам партрэта Янкі Купалы і выявою Пагоні надрукаваны рускамоўны тэкст. На жаль, падобная сітуацыя з роднай мовай з'яўляецца тыповай для значнай часткі калектываў устаноў культуры, адукацыі, творчых саюзаў, разнастайных цэнтраў, якія, здавалася б, абавязаны прапагандаваць родную мову і нашу культуру.

Што ж рабіць тады «простым людзям», якія хочуць далучыцца да скарбаў беларускай культуры? Няўжо вядомыя нашы артысты, пісьменнікі лічаць, што беларуская мова — гэта толькі для працы, мова кар'еры?

Калі так, то пытаю: «З каго тады браць прыклад?»

Г. П.

*Чыталі?*

# Беларусы маюць свой погляд на дзяржаўную ўладу

**Не першы ўжо год у нас вядуцца вострыя дыскусіі наконт дзяржаўнай будучыні Беларусі. І хоць думкі і меркаванні ўжо выказваліся самыя розныя, паступова акрэсліліся дзве палярныя пазіцыі. Прыхільнікі першай, да якой належыць дэпутацкая большасць Вярхоўнага Савета і ўрада, бачаць заўтрашні дзень Беларусі амаль нязменна такім, як у часы існавання БССР. На практыцы гэта дэкларатыўны суверэнітэт, захаванне дзяржаўнай уласнасці на асноўныя сродкі вытворчасці і жорсткай камандной сістэмы кіравання ўсёй гаспадаркай, арыентацыя выключна на «старэйшага брата», дарэчы, без уліку таго, што ў нестабільнай і непрадказальнай Расіі зараз паслядоўна набіраюць моц імперскія, вялікадзяржаўныя сілы. Першы крок да запланаванага зліцця з Расіяй — уваход у так званую адзіную рублёвую зону.**

**Рашучымі апанентамі падобнага накірунку выступаюць грамадскія сілы, якія можна назваць адраджэнскімі. Яны лічаць, што на Бацькаўшчыне ўжо сёння неабходна распачаць шырокае будаўніцтва новай дзяржавы — суверэннай еўрапейскай краіны, заснаванай на прынцыпах прадстаўнічай дэмакратыі, на эфектыўнай рынкавай эканоміцы, на прыярытэце нацыянальных каштоўнасцей і інтарэсаў пры няўхільным увасабленні ў жыццё палажэнняў вядомай «Дэкларацыі правоў чалавека», прынятай ААН. Дзеля выканання гэтых маштабных задач адраджэнцы заклікаюць арыентавацца перш за ўсё на ўласныя сілы і магчымасці, на эканамічны і творчы патэнцыял Беларусі.**

**Калі прыхільнікі першай пазіцыі ў дыскусіях звычайна карыстаюцца артадаксальнымі камуністычнымі пастулатамі і ахайваннем апанентаў, то крытыка адраджэнцамі супраціўнага боку, у сваю чаргу, часта насычана эмацыянальнымі элементамі.**

**Таму вельмі важным уяўляецца аўтарытэтны голас нейтральных дасведчаных спецыялістаў па дзяржаўнаму праву. 16 лютага г.г. «Народная газета» апублікавала вялікі артыкул «Нужна ли Беларуси президентская форма правления?» Адзначым, што аўтары — аўтарытэтныя спецыялісты вышэйшага класа. Аляксей Вішнеўскі — доктар гістарычных навук, прафесар, працуе начальнікам кафедры тэорыі права і гісторыі Акадэміі міліцыі МУС Рэспублікі Беларусь, Мікалай Гарбаток — кандыдат юрыдычных навук, намеснік начальніка гэтай кафедры.**

Аўтары артыкула падкрэсліваюць, што апошнім часам у сродках масавай інфармацыі Беларусі значна ўзмоцнена агітацыя за ўвядзенне ў рэспубліцы прэзідэнцкай формы праўлення.

Далей **А. Вішнеўскі і М. Гарбаток пішуць, што асноўным аргументам агітатараў на карысць прэзідэнцкай формы праўлення з'яўляюцца асаблівасці беларускага менталітэту, дзе нібыта «доминирует подданническое миропонимание», якое абумоўлена «манархічнай формай праўлення ў дарэвалюцыйнай Расіі і правадырскім характарам улады пасля 1917 года».** Аўтары заўважаюць, што такім чынам у грамадскую свядомасць настойліва ўкараняецца памылковая і абразлівая для нацыянальнай годнасці думка: **«Народ Беларусі пазбаўлены палітычнай волі і такі пасіўны, што даверыць уласны палітычны лёс любому, хто пажадае ўзяць уладу ў краіне і... стаць яе лідэрам».**

Робячы экскурс у гісторыю Беларусі, аўтары прыходзяць да высновы, што **наша мінуўшчына сфарміравала нацыянальны менталітэт, які характарызуецца зусім іншымі якасцямі. Сярод апошніх, бадай, галоўная рыса — «палымянае жаданне абарыгенаў існаванне, гонар і свабоду сваёй айчыны»** (даецца спасылка на выказванне міністра замежных спраў Расійскай імперыі, князя Адама Чартарыйскага, зробленае пісьмова цару Аляксандру I напярэдадні нашэсця Напалеона).

У артыкуле абгрунтавана даводзіцца, што **агульны менталітэт беларусаў гістарычна сфарміраваўся шляхам «сукупнасці культуры і ладу мыслення народа, які стварыў уласную дзяржаўнасць».** У падтрымку гэтай высновы аўтары звяртаюцца да надзвычай пераканаўчых аргументаў. **«У пачатку XVI стагоддзя,— заўважаюць яны,— тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага складала 496 тысяч квадратных кіламетраў. З іх тэрыторыя сучаснай Літвы — 14, Беларусі — 45, Падляшша — 3 і Украіны — 38 працэнтаў. Вядомы гісторык М. Рушэўскі таксама прызнаў, што ў дзяржаўнасці Вялікага Княства Літоўскага славянскі элемент з'яўляўся дамініруючым... Таму Грушэўскі вызначае Вялікае Княства Літоўскае як дзяржаву беларуска-літоўскую».**

Аўтары адзначаюць, што і пасля Люблінскай уніі 1569 года, у выніку якой Вялікае Княства і Польшча аб'ядналіся ў федэратыўную Рэч Паспалітую, **«Вялікае Княства Літоўскае не было ліквідавана і не перастала існаваць як самастойная дзяржава, хоць гэтага вельмі хацелася польскім магнатам. Да канца XVIII стагоддзя ў Вялікім Княстве Літоўскім дзейнічаў выбарны заканадаўчы орган, працавалі юрыдычна незалежныя ад Кароны (Польшчы.— *М.В.*) урад і мясцовая адміністрацыя, функцыяніравала дзяржаўная канцылярыя, ажыццяўлялася самастойная фінансавая і эканамічная палітыка, існавалі ўласны дзяржаўны скарб, вайсковыя фарміраванні, сістэма ганаровых званняў і пасад. А самае галоўнае — у нас дзейнічалі ўласныя законы, сабраныя ў Статуце 1588 года, яны якраз і былі юрыдычным падмуркам незалежнай беларускай дзяржавы». Дададзім, што асноўныя палажэнні згаданага Статута працягвалі дзейнічаць на тэрыторыі Беларусі да 1831 года (у Віцебскай і Магілёўскай губернях) і да 1840 года — у Віленскай, Гродзенскай і Менскай губернях.** Таму нельга не пагадзіцца з выказваннем аўтараў, **«што і пасля інкарпарацыі беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі самаадчуванне народа не характарызавалася вернападданніцтвам, аб чым сведчаць шматлікія гістарычныя дакументы».**

У артыкуле слушна падкрэслена, што **хоць у сваёй масе беларускі народ тады далёка не з'яўляўся ўзорам лаяльнасці да царскай улады, але ўсё ж у нашым грамадстве мелася нязначная купка людзей, якія знаходзіліся на іншых палітычных пазіцыях: «Вернападданніцкія пачуцці прастолу (тут) дэманстравала толькі частка насельніцтва — вярхушка, што была на службе царскага ўрада, як, дарэчы, пасля 1917 года — партыйна-дзяржаўная наменклатура».**

Аўтары артыкула лічаць таксама, што **некаторыя станоўчыя рысы беларускага менталітэту пазней былі страчаны, асобныя з іх — размыты. «Але стрыжань, яго каркас засталіся». Яны пішуць: «Дэфармуючае ўздзеянне на беларускі менталітэт... у XIX—XX стст. зрабілі адсутнасць беларускай дзяржаўнасці, паланізацыя і русіфікацыя, актыўная дзейнасць «западнорусов», пазней — сталінская барацьба з пагрозай «мясцовага нацыяналізму», а таксама практыка адкрытай ці замаскіраванай контрбеларусізацыі ў 30—80-я гады нашага стагоддзя... Нацыянальная ідэя толькі зрэдку прарывалася ў літаратуру, у друк, на радыё і тэлебачанне... Занепад нацыянальнай культуры адбіўся на нацыянальнай самасвядомасці»... Але навукоўцы ўпэўнены, што згаданыя адмоўныя фактары не здолелі вынішчыць у нашым народзе яго адвечных каштоўнасцяў, лепшых рыс, не ператварылі беларусаў ў шэры, аморфны натоўп, які будзе паслухмяна і слепа крочыць за лідэрам.**

Асаблівая ўвага ў артыкуле сканцэнтравана на тым, што **прыхільнікі «прэзідэнцкай формы праўлення на Беларусі... падкрэсліваюць таксама неабходнасць устанаўлення ў пераходны перыяд (вельмі, дарэчы, няпэўны) моцнай выканаўчай улады. На іх думку, такой яна можа стаць толькі пры ўмове сумяшчальніцтва прэзідэнтам пасад і кіраўніка дзяржавы і кіраўніка ўрада». «Але калі гэта так,— пішуць далей аўтары,— то гаворка тут ідзе зусім не аб прэзідэнцкай форме праўлення. Тут пад выглядам прэзідэнцтва яўна праглядаецца ідэя аўтарытарызму. А гэта ўжо мае ў сабе вялікую небяспеку».**

**А. Вішнеўскі і М. Гарбаток папярэджваюць чытацкую аўдыторыю: «Сацыяльны вопыт сведчыць, што верагоднасць злоўжывання ўладай пры прэзідэнцкай форме праўлення і перараджэння яе ў дыктатуру даволі вялікая... бо непамерна моцная выканаўчая ўлада не цярпіць абмежаванняў... Логіка непамерна моцнай улады такая, што ёй патрэбна толькі падстава, каб вызваліца ад самай нязначнай залежнасці».**

**Такім чынам, чытач пераконваецца, што ўвасабленне на Беларусі прэзідэнцкай формы праўлення ўяўляе сабой вялікую небяспеку для нацыі, што беларусы гістарычна маюць свой погляд на дзяржаўную ўладу.**

**М.В.**

---

*Філалогія*

# Слоўнікі: не апошнюю ролю маюць лінгвістычная інтуіцыя і культура

***Гутарка з кандыдатам філалагічных навук, дацэнтам, загадчыкам навукова-метадычнага цэнтра «Слоўнік» Тамарай Мікалаеўнай Сушай.***

**— Тамара Мікалаеўна, нам добра вядома серыя трохмоўных слоўнікаў, якая была выпушчана ў выніку працы навукова-даследчага цэнтра «Слоўнік» у Менскім лінгвістычным універсітэце. З чаго ўсё пачыналася?**

— Афіцыйна цэнтр быў створаны 1 лютага 1992 года з мэтай аб'яднання намаганняў і каардынацыі працы аўтарскіх калектываў і асобных аўтараў, якія займаюцца ўкладаннем слоўнікаў і размоўнікаў. Але фактычна група энтузіястаў пачала распрацоўку слоўнікаў вельмі даўно. У сувязі з гэтым трэба ўзгадаць імя Уладзіміра Ігнатавіча Марціневіча, які пачаў працу над нямецка-беларускім слоўнікам яшчэ ў 60-я гады і прыцягнуў да яе сваіх калег на факультэце нямецкай мовы. На вялікі жаль, у той час гэтай працай ніхто не цікавіўся. Таму надрукаваць нямецка-беларускі слоўнік не было ніякай магчымасці. Матывы адказу былі розныя: не будзе на яго попыту, кнігагандаль не зробіць заказы і г.д. Тады У. І. Марціневіч вырашыў зрабіць трохмоўны нямецка-беларуска-рускі слоўнік. Так і пачалася калектыўная праца над серыяй трохмоўных слоўнікаў. Гэта было на пачатку 80-х гадоў. Паралельна былі ўтвораны калектывы па распрацоўцы англа-беларуска-рускага, французска-беларуска-рускага і іспанска-беларуска-рускага слоўнікаў. Нагадаю, што ў тыя гады ніякага фінансавання працы калектываў над слоўнікамі не было. Папера, друкаванне рукапісаў і ўсё астатняе рабілася за ўласны кошт.

**— Плён працы 80-х гадоў — гэта серыя трохмоўных слоўнікаў. А над чым Вы працуеце цяпер?**

— На жаль, не выйшаў іспанска-беларуска-рускі слоўнік, паколькі ён не быў своечасова падрыхтаваны. Распаўся былы калектыў. Цяпер мы яго ўзнавілі. А ў сувязі з тым, што трохмоўныя слоўнікі выйшлі, я б хацела ад імя ўсіх укладальнікаў выказаць шчырую падзяку былому кіраўніку выдавецтва «Беларуская савецкая энцыклапедыя» Івану Шамякіну, а таксама старшаму навуковаму рэдактару Івану Саламевічу за тое, што яны нас натхнялі і падтрымлівалі ў такой працы. Выйшлі слоўнікі, і мы ўсвядомілі, што працаваць далей так, аднаасобнікамі, нельга. Трэба выходзіць на больш высокі ўзровень, прыцягваць да працы больш людзей. На Захадзе ўсе слоўнікі рыхтуюцца калектывамі. Цяпер у нас таксама створаны і працуюць тры калектывы: укладаюць англа-беларускі на 20 тысяч слоў і беларуска-нямецкі на 30 тысяч слоўнікі. Адзін з калектываў працягвае працу над іспанска-беларуска-рускім слоўнікам. У перспектыве плануем укладанне англа-беларускага слоўніка на 40 тысяч слоў. Працуем над яго картатэкай. Зрабілі заяўку ў выдавецтва. Заказ на слоўнік на 20 тысяч мы прапанавалі выдавецтву «Вышэйшая школа». Яны нас уключаюць у перспектыўны план выдання. Хацелася б далучыць да гэтай работы і выкладчыкаў факультэта французскай мовы, каб выдаць французска-беларускі слоўнік. Дакладна не ведаю, калі гэтая праца пачнецца, але ўпэўнена, што яна будзе. Мы зацікаўлены таксама ў распрацоўцы іспанска-беларускага слоўніка.

**— Чаму Вы ўкладаеце перш за ўсё іншамоўна-беларускія слоўнікі?**

— Яны рэкамендуюцца школам і вышэйшым навучальным установам для вывучэння перш за ўсё замежнай мовы. Наступная серыя слоўнікаў будзе беларуска-іншамоўная.

**— Ці прыцягваеце Вы да працы над слоўнікамі сваіх замежных калег?**

— Абавязкова. Мы запрасілі ў свой калектыў навукоўца і выкладчыка з Вялікабрытаніі доктара Джона Пітэра Мэё. Ён нарадзіўся ў Дэгенхеме, скончыў Бірмінгемскі універсітэт і аспірантуру, доктар навук. У 1966—1967 гадах стажыраваўся ў Маскве, у МДУ. Цяпер працуе на кафедры рускай і іншых славянскіх моў Шэфілдскага універсітэта. З намі супрацоўнічае па англа-беларускаму слоўніку: распрацаваў некалькі літар і будзе рэдагаваць англійскую частку. Дапамог нам у свой час і прафесар Джым Дынглі, які працуе ў Лонданскім універсітэце. Цяпер накіравалі ліст у Германію, каб завязаць кантакты.

**— А як з дзяржаўнай падтрымкай? Ці вылучаюцца грошы на навукова-даследчы цэнтр «Слоўнік»?**

— Мы атрымалі фінансаванне ў 1991 годзе пад нашу заяўку на навуковую дзяржаўную бюджэтную тэму. Рэктарат нас падтрымаў. Вылучылі пакой, набылі патрэбнае абсталяванне (камп'ютэры, пішучыя машынкі), аформілі лабаранта. Пяцьдзесят працэнтаў грошай ідзе на абсталяванне, а другая палова — на зарплату супрацоўнікам цэнтра. Зарплата атрымоўваецца невялікая. Але мы працуем не дзеля грошай. У гэтым годзе спадзяёмся, што будзе фінансаванне. Рэктарат абяцаў выдзеліць нам на парытэтных умовах з другімі падраздзяленнямі ксеракс. Гэта, безумоўна, аблегчыць нашу працу, бо зараз уся апрацоўка матэрыялу ідзе ўручную. У ідэале мы б хацелі, каб у нас быў камп'ютэрны цэнтр і каб можна было ўсю інфармацыю закласці ў камп'ютэр. Патрэбны і людзі, якія могуць на гэтай тэхніцы працаваць. Сёння я задаволена нават і тым, што ёсць.

**— А як у Вас з кадрамі? Ці ахвотна працуюць людзі і ці ёсць ім нейкая палёгка пры размеркаванні вучэбнай нагрузкі ў лінгвістычным універсітэце?**

— Недахоп кадраў — адна з асноўных праблем. Над слоўнікамі трэба ўмець працаваць. Не апошнюю ролю тут адыгрываюць лінгвістычная інтуіцыя, пачуццё мовы, прыхільнасць. Выкладчыкі працуюць амаль на грамадскіх пачатках. У нас працуе толькі адзін лабарант, які адначасова можа друкаваць адзін слоўнік. Магчыма, гэта толькі часовыя цяжкасці, бо рэктарат да ўсіх нашых праблем ставіцца з разуменнем.

**— Якія ў Вас перспектывы?**

— Плануем у 1992—1995 гг. завяршыць серыю трохмоўных слоўнікаў і падрыхтаваць іспанска-беларуска-рускі слоўнік, а таксама працягваць распрацоўку двухмоўных слоўнікаў большага памеру — на дваццаць, трыццаць і сорак тысяч слоў і размоўнікаў. На базе цэнтра плануецца падрыхтоўка стажораў з іншых ВНУ Рэспублікі Беларусь і СНД, а, магчыма, і аспірантаў. Плануем правесці канферэнцыю па лексікаграфіі. Мы гатовы распачаць, узначаліць і каардынаваць працу над серыяй перакладных іншамоўна-беларускіх і беларуска-іншамоўных слоўнікаў, прызначаных для школ, ліцэяў, каледжаў, універсітэтаў.

**Распытвала**
**Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

Згадкі

Адам СТАНКЕВІЧ

# Беларуская мова ў школах Беларусі XVI-XVII стагоддзяў

Bielaruskaja mowa
u škołach Biełarusi
XVI i XVII st.

У згаданы перыяд значная частка беларусаў належала да хрысціянства ўсходняга ўзору: уніятаў ці праваслаўных. Але беларусы былі таксама і рымска-каталікамі, якіх таксама налічвалася нямала. Пачатак каталіцкай веры сярод літоўцаў і беларусаў прыпадае на 1386 год, калі ліцвін Ягайла, стаўшы каралём польскім і вялікім князем літоўскім, загадаў хрысціць у Вільні нашых продкаў цэлымі натоўпамі. Якраз тады мноства беларусаў — і нехрысціян, і праваслаўных — прынялі каталіцтва, бо інакш Ягайла не даваў ім прывілеяў.

Каталіцкія школы засноўваліся пры касцёлах і кляштарах. Вядома, у прыватнасці, што да XVI ст. каталіцкія школы ўжо працавалі ў Вільні (пры кафедральным саборы) і ў Троках. Істотнае пашырэнне сеткі гэтых школ на Беларусі прыпадае на XVI стагоддзе.

Вось шэраг беларускіх гарадоў, дзе працавалі згаданыя школы: Гаева Барысаўскага павета (1522 г.), Масты Лідскага павета (1534 г.), Трабы Ашмянскага павета (каля 1539 г.), Старжын Менскага павета (1587 г.), Іказнь (1599 г.), Задарожжа (1601 г.), Друя Дзісненскага павета і Ляхавічы (1652 г.), Магілёў (1605 г.), Лагойск Барысаўскага павета, Вялікая Бераставіца, Юхавічы, Гародня, Заблудава на Гарodзеншчыне, Дунілавічы і інш. Вучылі ў гэтых школах мала: чытаць, пісаць і маліцца. Настаўнікамі працавалі пераважна палякі, студэнты з Кракава.

У школах ужывалася беларуская мова, якая тады была ўрадавай. Да 1569 г. палякаў у беларуска-літоўскай дзяржаве (Вялікім Княстве Літоўскім) лічылі чужынцамі. А ў Літоўскім статуце 1529 г. Польшча ў дачыненні да нас названа краінай чужой.

Да палавіны XVI стагоддзя і пазней каталіцкае духавенства на беларуска-літоўскіх землях ва ўрадавай і прыватнай перапісцы карысталася беларускай мовай. З гэтых гістарычных фактаў можна сцвярджаць, што беларуская мова мела ў нашым краі вельмі шырокі ўжытак і, натуральна, яе неабходна было вывучаць ва ўсіх школах. Хоць беларуская мова ў гэтых школах як асобны прадмет не выкладалася, але ж яна была мовай, якой карысталіся і настаўнікі, і вучні.

На Беларусі, апроч школ каталіцкіх, закладзеных пры касцёлах і кляштарах, якія можна назваць школамі парафіяльнымі, былі яшчэ каталіцкія школы езуітаў. Упершыню езуіты прыехалі ў Вільню ў 1564 годзе і заснавалі тут сваю вышэйшую школу — акадэмію. Пазней езуіты з'явіліся ў Бабруйску, Берасці, Дзвінску, Гародні, Менску, Магілёве, Нясвіжы, Оршы, Навагрудку, Пінску, Полацку, Слоніме, Слуцку, Смаленску, Віцебску, Жодзішках. У гэтых школах асноўнай мовай з'яўлялася лацінка, але ўжывалася і беларуская мова. Гісторык школ у Польшчы і Літве Лукашэвіч адзначаў, што рэлігійныя гімны і сцэнічныя пастановы вучняў такіх школ рабіліся на роднай мове навучэнцаў. «У гэтых школах,— пісаў Лукашэвіч, — каб вучні лепш засвойвалі матэрыял, можна было выкладаць прадметы па-беларуску».

Са згаданага вынікае, што і ў езуіцкіх школах (калегіях) беларуская мова займала годнае месца. І, сапраўды, гістарычныя крыніцы XVI і пачатку XVII стагоддзя гавораць, што езуіты тады шырока карысталіся нашай мовай у касцёлах і ў сваіх школах.

У пачатку XVI стагоддзя ў Нямеччыне з'явілася новая вера — пратэстанцкая. Пратэстанты падзяляюцца на евангелістаў, кальвіністаў і арыянаў. У 1562 годзе вядомы кальвінісцкі дзеяч Сымон Будны выдаў у Нясвіжы беларускі катэхізіс. А ў 1615 годзе навагрудскія кальвіністы заснавалі свае беларускія школы. Тады ж князь Хрыстафор Радзівіл уводзіць прадмет — беларускую мову ў Слуцкай гімназіі. Дзеля пашырэння кальвінізму праз школу найбольшы ўклад зрабіў князь Мікалай Радзівіл (Чорны). Ён заснаваў гімназію ў Слуцку, школы — у Навагрудку, Нясвіжы, Заслаўі, Оршы, Менску, Свіслачы, Шклове, Віцебску, Варнянах, Глыбокім, Смаргоні.

У гэтых школах таксама не абыходзіліся без беларускай мовы, хоць варта ўлічваць, што кальвіністы распаўсюджвалі свой уплыў сярод польскіх і паланізаваных тутэйшых магнатаў. Таму больш увагі яны надавалі польскай мове.

У тагачасных умовах праваслаўныя школы існавалі выключна сярод беларусаў, пераважна — сялян. Яны існавалі пры цэрквах і манастырах. Ужо ў пачатку XVI стагоддзя праваслаўныя школы працавалі ў Смаленску, Полацку, Менску, Слуцку, Вільні, Заблудаве, іншых гарадах і мястэчках. Дзятву вучылі чытаць, пісаць, маліцца па-царкоўнаславянску і па-беларуску. Згаданы ўжо Лукашэвіч, у прыватнасці, пісаў: «Пры манастырах і пры значных цэрквах усходняга абраду мусілі быць школы гэтага абраду, бо працягам амаль усяго знаходжання на троне Ягелонаў на Літве ва ўрадавых чыннасцях панавала мова руская». А што слова «Літва» азначае і Беларусь, а слова «рускі» адносна нашага краю азначае беларускі, мы ўжо ведаем.

Праваслаўныя школы на Беларусі падзяляліся на царкоўныя (манастырскія) і брацкія. Брацкія школы адрозніваліся ад царкоўных найперш тым, што іх заснавальнікамі з'яўляліся людзі свецкія. Галоўная мэта такіх школ — абарона праваслаўнай веры і беларускай народнасці. У нашым краі яны ўзніклі ў XV стагоддзі, але асаблівай распаўсюджанасці і росквіту дасягнулі ў наступным стагоддзі. Найбольшую вядомасць атрымалі брацкія школы ў Полацку, Пінску, Менску, Вільні, Віцебску, Магілёве.

У царкоўных праваслаўных школах і асабліва у брацкіх шырока ўжывалася беларуская мова. Увогуле, трэба сказаць, што гэты перыяд характарызуецца панаваннем беларускай культуры ў літоўска-беларускай дзяржаве, калі пісьменнасць знаходзілася на высокім узроўні, а беларуская мова, нагадаем, была ўрадавай. Ад тых часоў засталіся тысячы друкаваных і рукапісных беларускамоўных дакументаў. Адсюль вынікае: калі людзі ўмелі пісаць па-беларуску, то павінны былі вывучаць беларускую мову. Гэта, у прыватнасці, бачна і з тагачасных друкаваных кніг. Так, напрыклад, доктар Ф. Скарына свой «Псалтыр» (1517 г.) прызначаў для навучання «грамаце дзецям». В. Цяпінскі, які пераклаў на беларускую мову Евангелле, падкрэсліў, што зрабіў гэта дзеля «навучання простых людзей рускага языка».

Занатаваныя ў дакументах выказванні рэлігійных і свецкіх асоб таксама падкрэсліваюць ролю беларускай мовы ў брацкіх школах. Так, у 1588 годзе патрыярх Ярэмій, зацвярджаючы статут брацкай школы ў Вільні, назваў яе школай «языка грэцкага, лацінскага і рускага». А ў наступным годзе кароль Жыгімонт III, ухваляючы гэту школу, гаварыў аб мовах «рускай і грэцкай», якімі там карыстаюцца.

Таксама вядома, што ў брацкіх школах выкладалася некалькі моў: царкоўнаславянская, грэцкая, руская (беларуская). На гэтых мовах былі і падручнікі. Праўда, у праваслаўных школах перавага надавалася грэцкай і царкоўнаславянскай мовам, а ў каталіцкіх — мове лацінскай і нават польскай. Але ў брацкіх школах беларуская мова займала пануючае становішча.

З усяго гэтага бачна, што ў праваслаўных школах тагачаснай Беларусі наша мова ўжывалася куды шырэй, чым у школах каталіцкіх. Але і ў апошніх без беларускай мовы нельга было абысціся, бо яна з'яўлялася ў дзяржаве мовай судова-адміністрацыйнай. Нават тады, калі чалавек займаў пэўную пасаду, дзе наша мова яму была не патрэбна (напрыклад, польскі «каронны» суд), ён усё роўна яе вывучаў і ведаў, каб захаваць і падкрэсліць сваю беларускасць, сваю беларускую народнасць. Хоць пад польскім ўплывам карыстанне беларускай мовай у асяроддзі тутэйшых магнатаў паступова звужалася, і гэты працэс узмацніўся пасля Люблінскай уніі, але жывая беларуская мова ўжо паспела як след развіцца і стаць самабытнай.

Трэба спыніцца асобна на ролі і значэнні беларускай мовы ва уніяцкіх школах. Унія — гэта спалучэнне праваслаўнай царквы з каталіцкім касцёлам пад уладай Рыма, але пры захаванні праваслаўнай абраднасці. Ад нараджэння хрысціянства працягам цэлага тысячагоддзя падзелу на праваслаўных і каталікоў не было. Усе хрысціяне спавядалі адну веру. Але ў 1054 годзе Канстанцінопальскі патрыярх Фоцій парваў з апостальскай сталіцай Рымам. Пазней ажыццяўляліся спробы нанава аб'яднаць царкву і касцёл, ды плёну яны не далі. Нарэшце, толькі ў 1596 годзе ў Бярэсці ідэя уніі ўвасобілася ў рэальнасць, на беларускай зямлі яна пусціла даволі моцныя карані. Уніяцтва тут праіснавала аж да 1839 года.

Варта адзначыць асаблівы характар рэлігійнай уніі на Беларусі: яна ў пэўным сэнсе была беларускай народнай верай, якая найбольш адпавядала беларускаму народнаму духу.

Няма нічога тут дзіўнага. Бо каталіцтва ў лацінскім абліччы, асабліва польскае каталіцтва, для беларусаў чужое. Таксама не сваё для беларускай душы і грэка-расійскае праваслаўе. У час, калі заключалася унія, каталіцкі касцёл ужо схіляўся да польскасці, а праваслаўная царква арыентавалася на расійскі бок. Унія, на думку творцаў, павінна была ратаваць беларускі народ ад небяспекі падзелу на дзве варожыя часткі.

Уніяцкая царква карысталася беларускай мовай, спрыяла развіццю беларускай культуры і ўвогуле захаванню асобнай беларускай народнасці, таму яна адыграла станоўчую ролю ў нашай гісторыі. Уніяты стварылі на Беларусі цэлую сетку сваіх школ, дзе родная мова ўжывалася куды шырэй, чым у каталіцкіх і праваслаўных школах. Навучанне і выхаванне ва уніяцкіх школах вялі манахі-базыліяне. Такія школы працавалі ў Вільні, Жыровічах, Мсціславе, Барунах, у іншых мясцінах.

І ў сваіх цэрквах уніяты не маглі абыходзіцца без беларускай мовы, а ва уніяцкіх школах яна трывала займала пачэснае першае месца, бо па-беларуску выкладаліся ўсе прадметы. Цікава, што навучальны працэс звычайна ажыццяўляўся там без падручнікаў, шляхам гутарак па ўсіх дысцыплінах і адпаведных запісаў вучняў.

Роля беларускай мовы ва уніяцкіх школах добра бачна і з таго, што згаданыя школы славіліся як «рускія», гэта значыць, беларускія. Гісторыя дае тут нам шмат доказаў. Вядома, напрыклад, што уніяцкі архімандрыт Дубовіч заснаваў у Супраслі школу для «русчызны». А на Кобрынскім рэлігійным саборы вырашылі заснаваць у Менску уніяцкую духоўную семінарыю, дзе па-беларуску павінны былі выкладацца ўсе свецкія і багаслоўныя навукі.

Такім чынам, працягам доўгага часу унія садзейнічала развіццю беларускай мовы і культуры. Але Люблінская унія 1569 года, у выніку чаго Вялікае Княства Літоўскае і Польшча аб'ядналіся ў федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую, паскорыла паланізацыю нашага краю. Гэту падзею нават можна разглядаць як канец палітычнай самастойнасці беларусаў. А ў 1696 годзе быў выдадзены закон, паводле якога месца беларускай мовы ў грамадскім жыцці заняла мова польская. Таму гэта дата, відаць, з'яўляецца канцом нашай культурнай самастойнасці. Пазней палітыка польскіх улад у адносінах да уніі мела на мэце перавесці уніятаў-беларусаў у лацінства, гэта значыць, зрабіць іх рымска-каталікамі, адабраўшы ў народа яго родную рэлігійную абраднасць, беларускую мову, каб, урэшце, канчаткова паланізаваць беларусаў.

У складзе Расійскай імперыі унія праіснавала на Беларусі да 1839 года. Яе скасавалі на карысць расійскага праваслаўя. Калі Польшча губіла унію, як магла, то Расія яе зусім знішчыла. Разам з ліквідацыяй уніі замерла і развіццё нашай народнасці.

З той пары прайшло многа часу, змянілася ў нас шмат, а беларускі голас заглушылі мовы чужыя... Але да часу. Прапаў свой голас у беларускай арыстакратыі і гараджан, але голас і жыццё засталіся ў нашага народа.

Насталі новыя часы, часы рамантычныя, часы абуджэння. Народ наш ажыў. Ён створыць новыя формы рэлігійнага і культурнага жыцця, якія будуць не раз'ядноўваць, а гуртаваць людзей.

Будучыня належыць народу!

Пераказаў Мар'ян ВІЖ.

*Калі ў чытачоў узнікне жаданне азнаёміцца з арыгіналам гэтай працы Адама Станкевіча, летась невялікім накладам перавыдадзенай беларускай лацінкай Таварыствам «Адраджэнне» разам з Беларускай Каталіцкай Грамадой, нагадаем, што брашура маецца ў продажы ў сталічнай кнігарні «Светач».*

Артыкул упершыню быў выпушчаны брашурай віленскім выдавецтвам «Беларуская крыніца» ў 1928 годзе на лацінцы. Друкуецца ў перакaзе.

*У суседзяў*

## Эстонскія пашпарты больш нацыяналістычныя?

*Расія ўвесь час стараецца разыгрываць «рускаязычную» карту ў краінах «блізкага замежжа», абвяшчае пра свае асаблівыя правы на «рускаязычных» і з гэтае прычыны робіць усялякія заходы, каб яе партнёры па СНД уводзілі двайное грамадзянства. Гэта значыць, кожнаму суседу даць два пашпарты, але адзін з іх — расійскі, бо гэтага ўсе, хто гаворыць па-руску, вельмі хочуць, і ад таго толькі ўмацуецца інтэрнацыянальная дружба, а небяспекі для мірнага суіснавання ну ніякай. Раптам высвятляецца, што той-сёй з расійскіх грамадзян, якія жывуць у спрэчным Пячорскім раёне, пажадалі мець таксама эстонскі пашпарт, які можна атрымаць праз неўрадавую арганізацыю «Пэтсэрымаа». Адразу ж у Расіі сродкі масавай інфармацыі ўзнялі трывогу — эстонцы рыхтуюць такім чынам «дыверсантаў» «пятую калону», якая можа істотна паўплываць на вынікі рэферэндумаў па спрэчных тэрыторыях. У той жа час паведамляецца, што Расія па-ранейшаму збіраецца абараняць «русскоязычное» насельніцтва, дапамагаць «россиянам крепче обосноваться» ў суседзяў і «не намерено вывозить их на этническую родину», як пра тое паведамляецца ў «Известиях» (15.02.94).*

## Вучымся!

*Мікалай КРЫЎКО*

## СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

ПАГАНЯЦЬ (прымушаць ісці, рухацца хутчэй, панукаючы або сцябаючы чым-н.) *Рыгор узлез на воз і падаў Сёмку знак паганяць каня* (Гартны), ГНАЦЬ *Мы ехалі нейкай незнаёмай дарогай, спыняліся ў лесе і зноў гналі коней* (Асіпенка), ПАНУКАЦЬ і ПАНУКВАЦЬ *Чорныя, закураныя цыганы — старыя і маладыя — у клёшных штанах, запыленых хромавых ботах, паважна крочаць узбоч вазоў, панукаюць гладкіх коней* (Навуменка) — *Но, маленькі! — па-гаспадарску клапатліва панукваў... [Ваня] каня* (Паўлаў), НУКАЦЬ размоўнае (гаворачы «ну», паганяць каня або падганяць скаціну) *Ходзіць, нукае Араты* (Танк), НОКАЦЬ *разм.* (паганяючы крыкам «но», прымушаць ісці хутчэй) *[Немцы] ехалі, крадучыся, нават не нокалі на коней, не гаварылі паміж сабой* (Грахоўскі), ЦМОКАЦЬ (паганяючы адрывістым гукам, які атрымліваецца ад раптоўнага раскрыцця сціснутых губ, прымушаць ісці хутчэй) *Цмокалі на коней мужчыны, грукалі і скрыпелі вазы...* (Чорны), ПАДСЦЁБВАЦЬ (прымушаць ісці, бегчы хутчэй, сцябаючы чым-н. гнуткім) *Раз за разам падсцёбваючы каня, які і без таго імчаўся на ўсю сілу, да Ламко падляцеў сувязны* (Шахавец), ТУРЫЦЬ разм., узмацняльнае (падганяць) — *Я каня гэтак турыў, гнаў гэтак, — гаварыў маладзейшы [хлопец], з нейкаю як бы крыўдаю ў голасе* (Чорны). — Зак.: **панýкаць, панóкаць, пацмóкаць, падсцёбнуць.**

1. ПАГАРДЖАЦЬ (кім-чым; адносіцца да каго-н. без павагі, пагардліва, звысоку) *Нашы людзі не прывыклі да таго, каб з іх хто смяяўся, пагарджаў імі* (Алешка), ГРЭБАВАЦЬ кім-чым *Лукаш не грэбаваў нічым, падбіраў усё, што можна было ў рот узяць* (Лобан). *[Оля] добры аграном, любіць сваю справу, не грэбуе ніякай работай* (Дуброўскі), ІГНАРАВАЦЬ каго-што *[Юрка] даў сабе поўную волю ў сям'і — пачаў ігнараваць айчыма, маці* (Карпаў), ТРЭЦІРАВАЦЬ каго-што.— Закончанае трыванне: **Пагрэ́баваць, ігнарава́ць, трэціраваць.**

2. ПАГАРДЖАЦЬ (чым; пакідаць без належнай увагі, праяўляць абыякавасць да чаго-н.) *Адміністрацыя порта, мясцком фактычна працуюць у адрыве ад калектыву, слаба ведаюць яго патрэбы, настрой, пагарджаюць парадамі рабочых* («Звязда»), ІГНАРАВАЦЬ што *Мы не можам ігнараваць скаргі. Будзем разглядаць заявы і пільна правяраць* (Грамовіч), МАНКІРАВАЦЬ кніжн. (чым; нядбайна, няўважліва адносіцца да чаго-н.) *Манкіраваць службовымі абавязкамі*, НЕГЛІЖЫРАВАЦЬ (чым і без дапасавання) кніжн. устарэлае *Негліжыраваць сваім знешнім выглядам. Негліжыраваць другараднымі ролямі.*— Закончанае трыванне: **Ігнарава́ць, манкіраваць, негліжыраваць.** — **Пагарджа́нне, ігнарава́нне, манкіраванне, негліжы́раванне.**

3. ПАГАРДЖАЦЬ (чым; не прымаць пад увагу што-н. небяспечнае, непрыемнае) *Ад Арлоўскага Васіль Корж навучыўся пагарджаць нават смерцю* (Паслядовіч), ІГНАРАВАЦЬ што *«Папрашу — даруе»,— думаў ён [Кашын], зусім ігнаруючы гадасці, якія рабіў Доры Змітрайне* (Карпаў). *Ігнараваць небяспеку.*

ПАГАРШАЦЦА і ПАГОРШВАЦЦА (пра надвор'е, настрой, стан чаго-н. і г. д.: станавіцца горшым) *Ёй было шкада бацькі, яе трывожыла яго слабое здароўе, што пагаршалася з кожным днём* (Шахавец). *Кадэты відавочна цягнулі за цара, але, не зважаючы на гэта, адносіны паміж самаўладствам і Думаю пагоршваліся* (Колас), ГОРШАЦЬ *Надвор'е з кожным днём горшала* (Машара). *Самаадчуванне [Андрэя] з кожным днём горшала.* (Кулакоўскі), ПСАВАЦЦА *Калі.. [Васіль] глядзеў на няскончаны зруб клуба, заўсёды псаваўся настрой* (Шамякін). *Праўда, пачало псавацца надвор'е. Неба пакрылася смугою, якая пакрысе засланяла сонца* (Чарнышэвіч). Зак.: **Пагóршыцца, пагóршаць, сапсава́цца, падсапсава́цца** разм., **папсава́цца.**

ПАГАШАЦЬ канцылярскае (спыніць дзеянне чаго-н., ліквідаваць — пазыку, доўг) *Пагашаць пазыку*, ГАСІЦЬ *Гасіць доўг,* ЛІКВІДАВАЦЬ *Ліквідаваць пазыку.*— Зак.: **Пагасіць, ліквідава́ць.**

ПАГЛЯДЗЕЦЬ (накіраваць позірк на каго-, што-н., каб убачыць, разгледзець) *Я раніцаю адчыніў акно, Каб паглядзець, што робіцца на нівах* (Свірка), ПАБАЧЫЦЬ *Самым цікавым для мяне было пабачыць, як з высокага яруса бярвення кацілі ў Нёман калоды* (Колас).

ПАГОДЛІВЫ (добры, ясны, цёплы) *Пагодлівым ранкам стрэў я цябе на маленькім палескім паўстанку* (Рудкоўскі), ПАГОДНЫ *Дзень збіраўся быць пагодным* (Лобан), ЯСНЫ *Надвор'е стаіць яснае, сонца залівае ўсё наваколле* (Машара), БЯСХМАРНЫ (без хмар, ясны) *Яшчэ мы збіраліся з ім, калі толькі надарыцца бясхмарны вечар, пайсці ў астранамічную абсерваторыю універсітэта і скрозь тэлескоп паўзірацца на зоркі і месяц* (Карпюк), БЯЗВОБЛАЧНЫ (ясны, без воблакаў) *Дні стаялі бязвоблачныя, ціхія, вечары густыя, майскія* (Карпаў), СОНЕЧНЫ (такі, калі свеціць сонца, з сонцам) *Надвор'е было сонечнае* (Кавалёў).

ПАГОРШЫЦЬ (зрабіць горшым) *Ва ўсякім разе, такая спроба нічым не магла пагоршыць становішча партызан* (Краўчанка), САПСАВАЦЬ (змяніць на горшае, зрабіць дрэнным) *І ні слова больш не сказаў Рыгорка; так можна ўсю справу сапсаваць* (Якімовіч), ПАДСАПСАВАЦЬ разм. (крыху сапсаваць) *Падсапсаваць настрой.*— Незак.: **Пагарша́ць, пагóршваць, псава́ць.**

*Пры кансультацыі заслужанага работніка народнай адукацыі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Леаніда Іванавіча БУРАКА*

### Адасабленне паясняючых членаў сказа

1. Паясняючыя члены ў сказе размяшчаюцца за паясняемымі членамі і раскрываюць (тлумачаць) іх сэнс; згодна з інтанацыйным і сэнсавым выдзяленнем яны адасабляюцца і аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі: *Ліхтары гарэлі ў паравозаў па-новаму, па-веснавому* (М. Лынькоў). *Абрыўкі галасоў даносіліся выразна і звонка, па-начному* (Э. Самуйлёнак). *Нядаўна, на тым тыдні, я быў у горадзе* (У. Краўчанка).

дадатковае абагульняючае адценне і перад паясняючымі членамі, якія заўсёды знаходзяцца ў канцы сказа, ставіцца двукроп'е: *Перад ім знаходзіўся чалавек, якога звалі проста: Штанге* (Э. Самуйлёнак). *Усё было ў возе, не хапала толькі адной рэчы: шапкі на галаве* (Якуб Колас). *Гаварылі пра адно: пра хлеб і мір для народа* (М. Гарэцкі).

5. У тых выпадках, калі адасобленыя паясняючыя члены з'яўляюцца аднароднымі і размяшчаюцца ў сярэдзіне сказа, яны пры ўзмоцненым інтанацыйным і сэнсавым выдзяленні звычайна аддзяляюцца працяжнікам: *Сваім дзіцячым — няроўным і танклявым — голасам ён умяшаўся ў гаворку* (Кузьма Чорны). *Не так даўно ў адным французскім порце — у Брэсце, у Тулоне ці ў Марселі — стаяў на прычале карабель заморскі* (М. Лужанін).

Калі ж такія паясняючыя члены знаходзяцца ў канцы сказа, то ў адпаведнасці з інтанацыйным і сэнсавым выдзяленнем яны могуць аддзяляцца працяжнікам або двукроп'ем. *Рыцар быў адным са знакамітых магнатаў — не то князь Радзівіл, не то граф Патоцкі* (З. Бядуля). *Не хапала толькі аднаго: смеласці і сумлення* (М. Паслядовіч).

6. Калі паясняючыя члены набываюць значэнне ўстаўкі, то яны выдзяляюцца з двух бакоў дужкамі незалежна ад свайго размяшчэння ў сказе: *Аўтобус вадзіў нейкі Тодзік (Тодар) Рамашка* (Кузьма Чорны). *Правапіс (або арфаграфія) сучаснай беларускай мовы не патрабуе істотных змен* (К. Крапіва).

**УДАКЛАДНІМ**

## Знакі прыпынку пры адасобленых членах сказа

2. Калі паясняючыя члены прымацоўваюцца словамі **гэта, гэта значыць, а імена** і інш., то яны адасабляюцца і аддзяляюцца або выдзяляюцца коскамі разам з гэтымі словамі: *Колік, гэта Мікалай, разабраў усю машыну па вінціку* (Я. Брыль). *Дваццатае верасня, гэта значыць цераз два дні, назначае ён днём збору навікоў* (Якуб Колас). *З выключным нервовым узрушаннем, менавіта з ажыятажам, танцаваў ён цяпер* (Б. Мікуліч).

3. Калі адасабленне паясняючых членаў падкрэслена з асаблівай сілай, тады гэтыя члены аддзяляюцца працяжнікам: *Алеся знала яго малога, бо яны землякі — з адной вёскі.* (Паўлюк Трус). *Усё чутна было ў нас — слова ў слова* (Змітрок Бядуля). *А дзесятай гадзіне Лясніцкі пайшоў ва ўмоўленае месца — у гарадскі сквер* (М. Зарэцкі).

4. Калі з асаблівай сілай падкрэслены паясняемыя члены, тады яны атрымліваюць

*Культура мовы*

*Павел СЦЯЦКО*

## Ростул і росчын, ростулка і росчынка

Двухтомны акадэмічны «Беларуска-рускі слоўнік» падае словы РОСТУЛ і РОСЧЫН, але не бачым у ім натуральных утварэнняў РОСТУЛКА і РОСЧЫНКА (на іх месцы — пазычанае СТВОРКА).

Слова РОСТУЛ «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (т. 4. Мн., 1980. С. 717) падае са значэннямі: 1. Вугал, атрыманы ў выніку расхілення ножак цыркуля і пад. 2. Адтуліна, шчыліна, якая ўтвараецца, калі расчыніць акно, дзверы і пад. (РОСЧЫН тлумачыцца так: «Тое, што і ростул».)

Лексема РОСТУЛ — нульсуфіксальнае ўтварэнне (з пераносам націску на першы склад) ад дзеяслова **растуліць** (растуліцца, растуляць, растуляцца): растул-(іць) → ростул. Дзеяслоў **растуліць** у гэтым слоўніку (с. 687) тлумачыцца так: «развесці стуленыя парныя часткі цела або адзення».

Словам РОСТУЛ і РОСЧЫН адпавядае ў расійскай мове «раствор» («Беларуска-рускі слоўнік». Т. 2, Мн., 1989. С. 408).

«Русско-белорусский словарь» 1993 года зусім натуральна пераклаў расійскае *створить* — **зачыніць, счыніць;** *створить ворота* — **зачыніць (счыніць) вароты.** А вось слова *створка* — вытворнае ад *створить* — засталося без перакладу: *створка* — *створка.* Праўда, аўтары падаюць тут і варыянты-сінонімы да слова *створка* — лексемы *палавінка* (дверей, окна) і *фортка.* А чаму не **росчынка** — «тое, што расчыняецца»? Яно якраз добра стасавалася б да папярэдняга перакладзенага слова *створить* — **зачыніць (счыніць).**

І як тады зразумець чытачу, які пачынае вывучаць беларускую мову і сутыкнецца ў згаданым слоўніку з гэтымі, што стаяць побач, словамі: *створить, створка.* Першае з іх перакладзена — **зачыніць (счыніць),** а другое — утворанае ад першага — *створка* ўжо не мае перакладу. Чаму? Хіба не натуральна было б тут бачыць беларускае **росчынка,** утворанае ад **росчын (расчыніць)?** Бо *створка* (і *створ*) не мае сваёй матывацыі, свайго карэння ў беларускай мове.

Слова *створка* ў расійскай мове ўтварылася ад ранейшага *створить* (створять, створиться, створяться), якому ў нас адпавядае **зачыніць, счыніць** (зачыніцца, счыніцца, зачыняць, зачыняцца), як засведчыў трохтомны «Русско-белорусский словарь» 1993 года (т. 3. С. 451). Дык адкуль у беларускай мове гэтае *створка*? Чым яно матывуецца, дзе яго карані?

ТСБМ (т. 5, кн. 1, Мн., 1983. С. 324) дае такую вось дэфініцыю (азначэнне) слову *створка:* «Кожная з дзвюх рухомых палавінак дзвярэй, аканіц, варот і пад. *Расчыняюцца створкі дзвярэй...* Беларус скажа: **расчыняюцца дзверы,** а не створкі, бо ён іх (палавінкі) не «ствараў», а зачыняў (счыняў).

У згаданым пятым томе ТСБМ (кніга 2. С. 324) бачым і такое яшчэ тлумачэнне аднаго з семантычных варыянтаў слова *створка* — «кожная з палавінак каробачкі некаторых раслін, якая растульваецца пасля паспявання». Ды як гэта *«створка... растульваецца?» Расчыняем... створкі, растульваем створкі...* Якая беларуска-ніжагародская мяшанка! Тут якраз дарэчы ўтварэнне ад слова **ростул** — РОСТУЛКА. (Слова ж *палавінка* не падыходзіць, бо мае выразную ўнутраную форму — «палавіна» — адна з дзвюх частак. А калі такіх **росчынкаў** тры і болей?)

Дык вось: тое, што расчыняецца, што мае *росчын,* павінна азначацца словам РОСЧЫНКА (у вокнах, варотах і пад.), а што растульваецца, што мае *ростул* — РОСТУЛКА (у адзенні, кветках і пад.).

## *Язык як перац*

**Губы як маліны.**
**Гудуць, як авадні.**
**Гудуць, як камары,**
**Гудуць, як пчолкі (у вуллі).**
**Гульнуў, як голы ў крапіве.**
**Гуляе, як вецер.**
**Гуляе, як дзіця малое.**
**Гуляе, як кошка з мышкаю.**
**Гуляе, як свіння на вяроўцы.**
**Гуляе, як цяля на прывязі.**
**Гуляюць, як ластаўкі над поплавам.**
**Гуртам (добра, лёгка працаваць), як жартам.**
**Густы, як дым.**
**Густы, як ельнік.**
**Густы, як каша.**
**Густы, як кісель.**
**Густы, як шчотка.**
**Гучна (крычаць), як на кірмашы.**

# «МЫ НЕ ДАПУСЦІМ ЗДАЧЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ»

*У маладзёжным асяродку Менска імя Вінцука Вячоркі набывае вядомасць у другой палове 80-х гадоў разам з іншымі кіраўнікамі легендарнай студэнцкай «Талакі». Цяпер ён — рэдактар аддзела часопіса «Спадчына», выкладчык Беларускага гуманітарнага ліцэя, адзін з лідэраў Беларускага народнага фронту, сябра Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны, а яшчэ — сябра рэдакцыйнай калегіі нашай газеты. Карэспандэнтка «Нашага слова» папрасіла сп. Вячорку расказаць пра свой удзел у руху беларускага Адраджэння. У тэксце часткова захаваны асаблівасці мовы суразмоўцы.*

— *Спадар Вінцук, Вас ведаюць як яркага і актыўнага грамадскага і палітычнага дзеяча, аднаго з лідэраў Беларускага народнага фронту. У свой час Вы былі адным з арганізатараў патрыятычных суполак «Майстроўня» і «Талака», затым сталі ля вытокаў Моўнай камісіі, якая паслужыла ўтварэнню БНФ. Сфера Вашай навуковай зацікаўленасці — беларуская мова. Шмат працуеце ў галіне навуковай тэрміналогіі і правапісу. Хацелася б даведацца, як і калі Вы захапіліся беларускай ідэяй, што стала гэткай пуцяводнай зоркай у Вашым жыцці?*

— Пачатак самаўсведамлення сябе ў нацыянальнай культуры паклаў кантакт з іншымі культурамі — кароткі побыт у Літве ў раннепадлеткавым узросце, а далей усведамленне таго, што беларуская культура не абмяжоўваецца толькі тым, што давалі нам падчас школьных урокаў. Добра памятаю, як мяне ўразіў у школьныя гады ананімны самвыдавецкі твор «Лысая гара». З Сяргеем Дубаўцом мы яго нават передрукавалі дзеля распаўсюджання. Як на цяперашні розум, твор утрымліваў багата рэверансаў у бок камуністычнай улады, чым, пэўна, аўтар засцерагаўся ад магчымага пераследу. Далей мне адкрылася багацце беларускага аддзела Ленінскай бібліятэкі, куды я пранік яшчэ вучнем дзесятай клясы па чужым чытацкім білеце, бо школьнікаў туды не пускалі. Там я адкрыў невядомыя мне тэксты Купалы, выданні дваццатых гадоў, «Узвышша», «Наш край», віленскія выданні. Карацей кажучы, адкрылася беларуская культура крыху інакшая — багацейшая і цікавейшая за праграмную. Мой выбар будучай прафэсіі — калі я абіраў філялягічны факультэт — быў сведамы. Я ішоў туды, бо сур'ёзна цікавіўся лінгвістыкай, рознымі мовамі і іх дачыненнямі. Гэта з аднаго боку. З другога боку, я пайшоў менавіта на беларускае аддзяленне БДУ, куды гараджане паступалі рэдка, бо быў к гэтаму часу ўжо перакананым нацыяналістам.

— *Вы з рускамоўнай сям'і?*

— Як і ўсе гараджане.

— *Які ўплыў мела на Вас сям'я?*

— У сям'і заўсёды быў культ літаратуры і кнігі. І культ ведаў. Гэта, відавочна, спрыяла таму, што свае веды я мусіў пашыраць. Калі чалавек абірае нейкую пазыцыю, то ён мусіць гэтую пазыцыю бараніць; калі ён мае ідэал, ён дамагаецца яго рэалізацыі. Так сталася, што вузкае кола аднадумцаў — Сяргей Сокалаў, Сяргей Дубавец і я — прыступілі ў 1979 г. да выдання нелегальнага часопіса «Люстра дзён». Гэта была дастаткова рызыковая акцыя. Выйшла ўсяго пяць нумароў гэтага часопіса, які друкаваўся на машынцы ў адной з вайсковых частак Менска накладам ад 10 да 20 асобнікаў. Я думаю, што «Люстра дзён» памятаюць многія філфакаўцы, людзі Менска і Наваполацка, дзе мы яго распаўсюджвалі.

— *Якія матэрыялы Вы ў ім змяшчалі?*

— Публіцыстыку і літаратурныя творы.

— *Скажыце, што ўяўляла сабою «Майстроўня?» Калі яна ўзнікла?*

— Існаванне заканспіраванага кола мы лічылі абавязковым, бо нехта павінен быў выпрацоўваць ідэалёгію, стратэгію. Але разам з тым замыкацца толькі ў нелегальных формах дзейнасці пры нашай абмежаванасці, скажам, у сродках інфармацыі, было немэтазгодна. Таму менавіта і нарадзілася ідэя стварыць дастаткова шырокі легальны рух, які меў бы трывалую ідэйную — незалежніцкую, нацыяналістычную — аснову. Такім рухам натуральна і аб'ектыўна стаўся рух за адраджэнне народных традыцыяў, за адраджэнне фальклёрных святаў, народных песень на гарадской глебе. Мы лічылі прынцыповым менавіта збеларушчванне горада. Тым больш, што на нас, гараджанаў у другім-трэцім пакаленні, вялікае эстэтычнае ўражанне зрабіла адкрыццё, што, акрамя параднай, арнамэнтальнай, пэйзанскай беларускай культуры, існуе народная беларуская культура, аўтэнтычная, з глыбокімі эўрапейскімі каранямі, якая нічым не нагадвала частушачных распеваў у духу хору Пятніцкага, інакшая і адрозная ад таго тэлевізійнага сурагату, які нам прапаноўваўся. Дапамог выпадак. Мы з жонкай Арынай неяк на лекцыі па гісторыі беларускага мастацтва пазнаёміліся з Ларысай Сімаковіч — зараз яна кіруе «Госцёўняй», і тая, запаліўшыся супольнай ідэяй, пагадзілася рыхтаваць абрад Калядаў. Удзельнікамі тых вулічных Калядаў сталі студэнты універсітэта і тэатральна-мастацкага інстытута. Было гэта на пераломе 1979—1980 гг.

— *Памятаецца, тая імпрэза нарабіла многа шуму ў горадзе.*

— З тых першых, разганяных міліцыяй Калядаў і пачалася «Майстроўня».

— *Чым канкрэтна займалася «Майстроўня»?*

— Яна адраджала фальклёр і тым самым абуджала самасвядомасць людзей, пашырала беларускасць. А займалася яна шмат чым. Спачатку яна называлася «Спеўная», а затым «Спеўна-драматычная». «Майстроўня» бралася за пастаноўку «Цара Максіміляна» ў інтэрпрэтацыі Галубка з узмоцненым патрыятычным гучаннем, а таксама за пастаноўку «Лысай спявачкі» Эжэна Ёнэска — авангарднага французскага драматурга.

— *Дзе збіраліся сябры «Майстроўні»?*

— Спачатку на філфаку (неафіцыйна, затым з дазволу), потым ў Палацы прафсаюзаў. Аднак пасля разбурэння тэатра на пляцы Волі, калі «Майстроўня» выйшла на дэманстрацыю пратэсту і апынулася ў райаддзеле міліцыі, правёўшы там вечарок, працаваць у Палацы прафсаюзаў стала немагчымым. «Майстроўня» праіснавала з 1980 па 1985 год.

— *Чым адрознівалася «Майстроўня» ад іншых фальклорных і каляфальклорных калектываў?*

— Прынцыпова адрознаю рысаю «Майстроўні» была беларускамоўнасць яе ўдзельнікаў і тая атмасфэра, якая дазваляла інтэгравацца ў яе новым асобам праз пераход на беларускую мову, прынамсі, у сваім асяроддзі.

— *Колькі было сяброў у «Майстроўні»?*

— Прайшла праз яе добрая сотня чалавек. Асяроддзе «Майстроўні» дагэтуль дае плён: то тут, то там праяўляюцца нацыянальна сведамыя людзі, што прайшлі «майстроўскую» загартоўку, міліцэйскі пераслед і ўсялякія рэпрэсаліі на рабоце або вучобе. Тады ж яшчэ брэжнеўшчына была, часы застою. Людзі вучыліся вытрымцы, вучыліся супрацьстаяць рэжыму. Адзначу, што ўвесь час у «Майстроўні» дзейнічала прыхаваная група, якая ажыццяўляла палітычную дзейнасць іншым чынам, кантактуючы з людзьмі старэйшага пакалення. Памятаецца, мы разносілі выробленыя мастакамі звароты да пісьменнікаў перад іхнымі з'ездамі, напісаныя ў стылі Мацея Бурачка. Я думаю, што наяўнасць палітычнага ядра ў «Майстроўні» адыгрывала стабілізацыйную ролю і забяспечвала пераемнасць. Яшчэ зазначу, што фальклёрныя святы мы ладзілі не дзеля святаў, а дзеля стварэння прэцэдэнтаў, калі людзі выходзяць на вуліцу не дзеля афіцыёзнай патрэбы, а каб паглядзець адзін на аднаго. Такім чынам адбывалася кансалідацыя моладзі на нацыянальнай глебе, па першым часе на глебе адроджаных народных святаў. Кожнае паседжанне «Майстроўні» складалася з дзвюх частак: спевак або рэпетыцыі і лекцыі — па беларускай мове і літаратуры, па гісторыі і мастацтве, па паліталёгіі і філязофіі. Напрыканцы мы выйшлі на вельмі сур'ёзныя паліталягічныя і культуралягічныя праграмы. Ішла ўзмоцненая і мэтанакіраваная самаадукацыя. Майстроўцы ездзілі ў вандроўкі, удзельнічалі ў раскопках (напрыклад, у Мірскім замку), кантактавалі з нацыянальна сведамымі археолягамі,— гэта была добрая магчымасць у адаленні ад КДБ весці нармальную нацыянальную працу.

— *А як узніклі кантакты сяброў «Майстроўні» з адраджэнцамі старэйшай генерацыі?*

— Праз пасярэдніцтва тых жа студэнтаў з тэатральна-мастацкага інстытута мы звязаліся з мастакамі Аляксеем Марачкіным, Яўгенам Кулікам, Міколам Купавам, Генадзем Сокалавым-Кубаем, а праз іх — з Зянонам Пазьняком, Мікалаем Ермаловічам. Аднак да таго часу мы ўжо мелі свае перакананні і займаліся нелегальнай дзейнасцю.

— *Пасля «Майстроўні» пачала дзейнічаць «Талака»?*

— Не адразу. Паміж імі існавала некалькі пераходных структураў. У 1987 г., калі не памыляюся, у жыллёва-эксплуатацыйнай службе па вул. Сурганава існаваў клюб імя У. Караткевіча. Да ядра былой «Майстроўні» дадаліся людзі, што жылі побач. Клюб падрыхтаваў і правёў вечарыну памяці Караткевіча, пасля чаго павінен быў спыніць сваю дзейнасць, як мяркую, па распараджэнні райкама партыі. Асяроддзе «Майстроўні», такім чынам, ператрывала ў ЖЭСе некалькі месяцаў.

— *Чым «Талака» адрознівалася ад «Майстроўні»?*

— Новае аб'яднанне нацыянальна сведамай моладзі было перадусім дыскусійным клюбам, а зарадзілася яно на аснове ўласна талакоўскай працы, пачатак якой паклала яшчэ «Майстроўня». Талакоўцы шмат займаліся аднаўленчай працай: парадкавалі гістарычныя могілкі, удзельнічалі ў рэстаўрацыі Траецкага прадмесця і аб'ектаў Верхняга горада, іншых помнікаў — выязджалі, прыкладам, у Плябань. Праца рукамі дабаўляла аўтарытэту клюбу і нэўтралізавала яго крытыкаў, якім казалі, што мы не толькі менцім языкамі, але і рукамі штосьці робім для Бацькаўшчыны. Лічу, што «Талака» была вельмі ўдалай формай аб'яднання моладзі і дала добры плён. Праз яе прайшло багата людзей. На паседжанні яна збірала да двухсот чалавек. Старшыняваў Сяржук Вітушка. Яе дзейнасць абарвалася на пачатку 1989 г. Адзначу, што «Талака» — пераемніца «Майстроўні» — пераемным было яе арганізацыйнае ядро.

— *Хто заняў месца «Талакі»?*

— Узнікла аб'яднанне «Тутэйшыя». Яно арыентавалася перадусім на літаратурную творчасць. У многіх гарадох краіны ўтварыліся клюбы, падобныя да «Талакі» тым, што яднаслі нацыянальна сведамую моладзь. Іх налічвалася 70 ці нават 80. І гэта прывяло да ўзнікнення ідэі стварыць канфэдэрацыю беларускіх суполак. Мадэль канфэдэрацыі — усебеларускай структуры са сваёй праграмай — мы старанна адпрацоўвалі. Яна была прынятая пазней на Устаноўчым сойме канфэдэрацыі ў Вільні. І гэта, бясспрэчна, быў прэцэдэнт стварэння агульнабеларускай палітычнай структуры ўпершыню за час панавання камуністаў. Канфэдэрацыя беларускіх суполак стала першай агульнабеларускай некамуністычнай палітычнай структурай.

— *Хто ўваходзіў у канфедэрацыю?*

— «Талака», «Тутэйшыя» і аналягічныя суполкі па ўсёй краіне. З утварэннем БНФ канфэдэрацыя ўвайшла ў яго як аддзел, фактычна ўмацавала і засіліла сваімі кадрамі, і я думаю, што гэтым яна выканала сваю гістарычную місію.

— *А што Моўная камісія?*

— Камісія беларускай мовы працавала пры Беларускім фондзе культуры. Яна была другой, пасля акадэмічнага «Сумоўя», арганізацыйнай формай, у якой быў наладжаны кантакт маладзейшага і старэйшага пакаленняў адраджэнцаў. Моўная камісія была такім канкрэтным практычным праектам дзвюх узроставых генэрацыйных хваляў, і мы гэты праект, я лічу, удала рэалізавалі, таму што, праіснаваўшы дзесьці год, камісія выпрацавала дакумэнт пад назвай «Адраджэнне беларускай мовы». У рабоце над ім узялі чынны ўдзел Міхась Чарняўскі, Зянон Пазьняк, Анатоль Гурыновіч, Яўген Кулік, Пётра Садоўскі, Вячаслаў Жыбуль, я спрычыніўся — па памяці не магу назваць усіх аўтараў дакумэнта. Камісія была свайго роду трэніровачным полем для выпрацоўкі будучай мадэлі масавага руху, які сканцэнтруе інтэлектуальныя і палітычныя сілы розных пакаленняў. Фактычна на глебе камісіі быў адпрацаваны будучы спосаб выхаду на шырокія масы. Спачатку была толькі моўная ідэя, а па меры саспявання грамадскай думкі натуральным чынам мы пераходзілі да арганізацыі Фронту «Адраджэнне».

— *Як Вы трактуеце паняцці «нацыянальная ідэя», «нацыяналізм»? Ці змянілася іх разуменне з часу выхаду ў свет кнігі А. Уліцёнка «Іншадумцы», у якой змешчана Ваша інтэрв'ю?*

— Ніякіх прынцыповых зменаў у трактоўку гэтых паняццяў уносіць не буду. Мы пазбаўляемся ад савецкіх штампаў і стэрэатыпаў. Паводле міжнароднай палітычнай тэрміналёгіі паняцце «нацыяналізм» азначае тое ж, што ў савецкай навуцы трактавалася як «нацыянальна-вызвольны рух». Такі рух адбываецца ў нас сёння, але мэта яго яшчэ далёка не здзейснена. Калі каго бянтэжыць слова «нацыяналіст», то можна называцца прыхільнікам нацыянальна-вызвольнага беларускага руху, і гэта будзе адно і тое ж. Асабліва хачу падкрэсліць: бальшавікі і заходнія аналітыкі адзначалі, што нацыянальна-вызвольны рух народа супраць шматвяковага ўціску імперыяў пераважна супадае з дэмакратычным рухам. У той жа час рух антынацыянальны аўтаматычна становіцца антыдэмакратычным.

— *Вы паўсюдна карыстаецеся роднай мовай?*

— Натуральна. Я ж не магу падманваць людзей, агітуючы іх рабіць тое, чым сам не жыву. Зрэшты, рэч не ў гэтым. Рэч ў тым, што для мяне гэта спосаб жыцця.

— *Якім Вам бачыцца ў перспектыве наша грамадства? Куды яно пойдзе? У сувязі з гэтым, які лёс чакае наша адраджэнне і яго творцаў?*

— Я аптыміст. Я спадзяюся, што супольная барацьба сведамых сілаў грамадства прывядзе да таго, што мы не дапусцім здачы незалежнасці, што адбудуцца выбары новага парламанта, што на гэтых выбарах пераможа БНФ, які замацуе незалежнасць канкрэтнымі практычнымі заканадаўчымі актамі. А далей можна будзе будаваць нармальнае жыццё, адраджаць эканоміку, спакойна займацца культурай, навукай — хто чым хоча.

Распытвала
Ірына КРЭНЬ.

*Юбілеі*

# Даследчык Беласточчыны

6 сакавіка споўнілася 60 гадоў вядомаму моваведу, віцэ-прэзідэнту Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, прафесару Варшаўскага універсітэта (філія ў Беластоку) Міхалу Кандрацюку. Усе, хто з ім сутыкаўся, ведаюць яго не толькі як выдатнага вучонага, але і цудоўнага чалавека, патрыёта сваёй Беласточчыны, які шмат зрабіў для вывучэння не толькі мовы тамтэйшага люду, але і «мовы зямлі» — мясцовых назваў паселішчаў, урочышчаў, рэчак і ручаёў.

Міхал Кандрацюк нарадзіўся ў вёсцы Дубіны каля Гайнаўкі, на заходнім краі славутай Белавежскай пушчы. Дзяцінства яго прыпала на ваенныя і пасляваенныя гады. Нягоды і нястачы загартавалі характар, навучылі дабівацца пастаўленых мэт.

З 1958 года Міхал Кандрацюк, тады яшчэ студэнт беларускага аддзялення Варшаўскага універсітэта, пачаў збіраць матэрыялы для атласа беластоцкіх гаворак. Даследаванне моўных асаблівасцей свайго рэгіёна ён працягваў і пасля 1960 года — ужо навуковым супрацоўнікам сектара беларускай філалогіі Інстытута славяназнаўства Польскай Акадэміі навук. Назіранні і абагульненні — вынікі тых студэнцкіх экспедыцый — сталі базай першых публікацый па фанетыцы мясцовых гаворак. Пра іх высокі ўзровень сведчыць тое, што артыкулы Міхала Кандрацюка аб вакалізме гайнаўскіх гаворак і вымове даўняга мяккага ц у гаворках Беласточчыны сталі здабыткам усёй беларускай дыялекталогіі і часта цытуюцца. А яго заслугі як збіральніка і інтэрпрэтатара дыялектных фактаў добра відаць у «Атласе ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны», тры тамы якога пабачылі ўжо свет (у 1980, 1989 і 1993 гадах).

Аднак найбольшым захапленнем у яго навуковым жыцці стала тапанімія Беласточчыны, якой ён прысвяціў дзве манаграфіі і шмат артыкулаў. А пачалося ўсё з таго часу, калі ў Польшчы, пераважна на захадзе і поўначы краіны, пачалі ўзнаўляць старажытныя славянскія мясцовыя назвы, замест знямечаных. Далучаная да Польшчы пасля вайны частка Беласточчыны з пераважна беларускім насельніцтвам таксама трапіла ў сферу тапанімічных даследаванняў. І значную частку той «чарнавой» працы зрабіў Міхал Кандрацюк. Пра гэта ён пісаў пазней так: «Мая роля, на той час асістэнта-пачаткоўца, зводзілася тады да выездаў на месца і фіксацыі ў кожнай вёсцы дыялектных форм назваў вёсак і ўсіх фізіяграфічных аб'ектаў з прывязкай іх на карце. Пасля адшукваліся асноўныя гістарычныя крыніцы для зафіксаваных тапонімаў. За якасць сабраных матэрыялаў мы, напэўна, не павінны мець сораму... Былі гэта даволі цяжкія падарожжы... на сваім веласіпедзе або пехатой, ідучы ад вёскі да вёскі пры любым надвор'і, пад сонцам і дажджом, у спёку і холад... І рабілася гэта ўсё за невялікую плату і ў час чарговага адпачынку». Але дзякуючы гэтай працы, магчыма, і захаваліся ў форме, набліжанай да народнага вымаўлення, шмат якія мясцовыя назвы, пазбегнуўшы карэннага перайначвання, як гэта мела месца ў нас. Магчыма, каб і ў нас у свой час была праведзена такая работа, цяжэй было б дэфармаваць тапанімічны ландшафт Беларусі рознымі Сірэнеўкамі і Янтарнымі. Пазней Міхал Кандрацюк паглыбіў свае даследаванні мясцовых назваў з мэтай высвятлення іх паходжання і магчымай этнічнай прыналежнасці моўных продкаў сучасных жыхароў Беласточчыны. Гэтаму была прысвечана яго доктарская манаграфія «Балтыйскія элементы ў тапаніміі і мікратапаніміі беластоцкага рэгіёна» (1985 г.), якая працягнула надзвычай цікавы кірунак анамастычных даследаванняў, на жаль, у Беларусі малавядомы, моўнага ўзаемадзеяння балтаў і славян на былых яцвяжскіх землях (працы шведскага даследчыка Кнута Фалька, польскіх даследчыкаў Яна Налепы, Тадэвуша Зданцэвіча і іншых). Гэты кірунак натуральна пашырае даследчыцкія інтарэсы Міхала Кандрацюка і на Гродзеншчыну, што цяпер яму як прафесару беларусістыкі ў Беластоку лягчэй ажыццявіць у супрацоўніцтве з суседнім Гродзенскім універсітэтам і іншымі даследчымі ўстановамі.

Пажадаем жа яму новых поспехаў у навуковай працы і ў арганізацыйнай дзейнасці на ніве беларусістыкі і славістыкі.

**Генадзь ЦЫХУН.**

*Творчасць нашых чытачоў*

*Кастусь ГУРКО*

## Ці не праўду гавару?

**Чуеш злева, чуеш справа —**
**Сэрца млее і шчыміць:**
**— Мова наша — не цікава,**
**Па-мужыцку так гучыць.**

**У мяне адказ кароткі**
**У душы агнём гарыць:**
**— Здрадзіў мове — здрадзіў продкам,**
**Будзеш век ваўком блудзіць.**

**Не спазнае долі шчасця**
**Твой сынок і сынаў сын...**
**Вось адкуль на нас напасці,**
**Вось ён — зманлівы аршын.**

**І чаму так закляніла**
**Многім сэрца й галаву?**
**Беларусе, браце мілы,**
**Ці не праўду гавару?!**

## Данчык

**Непаўторны спадар Данчык,**
**І для нас ужо пяе,—**
**Неба роднага акрайчык**
**У далёкай старане.**
**Белавежы пошум чысты,**
**Наднямоння шыр і даль,**
**Нарачанскіх хваль празрыстых,**
**І пяшчоту, і крышталь,**
**Цішыню балот Палесся,**
**І Чарнобыля бяду**
**Увабрала яго песня**
**І наводзіць столькі дум.**

*А. БУБАЛА* *З прозы жыцця*

# «КАШМАР-Р! ПАЗОР-Р!»

— Ну, куды ж ты, Юзя, хадзіла?

— Ва-першых, ня Юзя, а Зіна, а ва-ўтарых, хадзіла ў горад, у Бігосава.

— І што ж ты там купіла?

— Ды так, соль, спічкі ды сяранкі.

...Успамінаю гэтую гаворку з тых ужо далёкіх часоў, калі першыя вясковыя дзяўчаты, трапіўшы аднойчы ў мястэчка, прыносілі з сабою пэрлы гаворкі «а ля рюс». З іх дасціпна жартавалі, і вёска заставалася сама сабою, размаўляючы па-свойму, на дыялекце, што завецца матчынай мовай. А ў беларускай школцы мы з задавальненнем вучыліся чытаць і пісаць «правільна», і літаратурная мова здавалася зусім не чужою, а натуральнай, роднай, радуючы сваёй упарадкаванай прыгажосцю: радкі ж і цэлыя старонкі з «Новай зямлі» запалі ў памяць і ў сэрца найглыбей за ўсё.

Але ішлі гады. Беларускай школцы адвялі столь у чатыры класы, і яе гадаванцы, яшчэ неакрэплыя, траплялі з роднага асяроддзя, з матчыных рук у асяроддзе, калі і не чужое, дык чужароднае, у рукі гувернанткі, якая прыкладала ўсе сілы, каб тубыльцы не толькі даведаліся, што ёсць на свеце «могучий и прекрасный», але вывучалі яго лепш і палюбілі мацней, чым сваю «дзеравенскую».

Тым часам змучаная калгасам бяспашпартная вёска праўдамі і няпраўдамі вытурхоўвала юнакоў і дзяўчат (нярэдка самых увішных) у свет, на заводы і фабрыкі, шахты і каналы па ўсяму СССР. Дзяўчаты, якія, на мой погляд (о, даруйце!), наогул лягчэй адракаюцца (ад кахання, ад імя і інш.) і лягчэй адаптуюцца да новага, ужо ў першы прыезд дадому прывозілі новыя прычоскі, новыя фасоны сукенак, новую гаворку — усё моднае. Няўдачніцы, якім наканавана было застацца ў вёсцы, з усяе сілачкі, падгледзеўшы і падслухаўшы на вячорках, стараліся паходзіць на гарадскіх — у прычосках, у фасоне, у гаворцы... Бо іх патэнцыяльныя жаніхі, а іх было малавата, «стралялі» за маднейшымі, таксама імкнучыся гаварыць «культурна»: не «чаго-каго», а «атчаво-пачаму». Лепш гэта ўдавалася тым, хто адслужыў у арміі.

Так ствараліся ўмовы для наладжвання лінгвістычнага феномена — нашай славутай трасянкі. Але ў вёсцы моўны гібрыд пакуль што не меў аптымальных умоў для развіцця. «Папачамукаюць» там з «гарадскім» ці «гарадскою» світальнай сцяжынкаю з вячоркі дадому, а назаўтра гамоняць са сваімі па-свойму.

У горадзе ішло хутчэй, бо былыя вяскоўцы, прыкметна вылучаючыся з «культурнага» натоўпу, як мага хутчэй імкнуліся пазбавіцца сваіх «хібаў», у тым ліку і роднай мовы. Але і гэта яшчэ была не трасянка. Проста вяскоўцы авалодвалі рускай мовай, заставаўся толькі неўміручы акцэнт, які, дарэчы, вылучае сярод рускіх нават самага адукаванага беларуса, які хаця б у дзяцінстве гаварыў на мове матчынай.

Натуральная трасянка ў яе пачварным выглядзе саранчой распладзілася, як ні парадаксальна, у гады «найбольшага росквіту сацыялістычных нацый».

Вяскоўцы, трапіўшы ў горад, дзе беларуская мова ўжо ледзьве цеплілася толькі асобнымі экзатычнымі астраўкамі ў некаторых тэатрах, рэдакцыях ды адзінкавых навуковых установах, усё ж не мусілі адшліфоўваць сваю «рускую», бо яны ўжо не былі ў горадзе меншасцю. Без асаблівых высілкаў яны выпрацавалі моўны «шырпатрэб» — нейкую жахлівую помесь моў, але не мову, бо трасянка не паддаецца ніякаму ўнармаванню і нават элементарнаму правапісу з-за вульгарнага і нелагічнага падбору лексем, фанем і граматычных нормаў.

Тое ж адбылося і ў вёсцы, куды разам з сярэднеадукаванымі спецыялістамі сярэдняга звяна праз шматлікія канторы, нарады, планёркі, справаздачы, школы партвучобы і кампрацы, семінары і канферэнцыі хлынуў паток рускамоўнага афіцыёзу, пераплаўляемы на хаду яго носьбітамі-прамоўцамі ўжо ў стылі «а ля беларус».

Вынік атрымаўся, як і ў горадзе. Такая-сякая розніца з-за цесных сувязей горада і вёскі прышліфалася да нейкіх сярэдніх нормаў — не, не граматычных і не лексічных, а, хутчэй, нормаў калечання абедзвюх моў, якая дазваляе разумець трасянку і карыстацца ёю абсалютнай большасці народа — ад ударніка радавога «падразьдзіленьнія» да кіраўніка дзяржаўнага «учырыждзеньнія», ад Панцялея да Дземянцея.

Нібы вірус СНІДу, трасянка паразіла мільёны нашых суайчыннікаў. Так-сяк ураваліся толькі тыя, у каго быў імунітэт: старыя вяскоўцы і працаўнікі, якім не выпадала выходзіць на трыбуны, ды па-сапраўднаму адукаваныя людзі. Першыя карыстаюцца толькі роднай мовай, другія могуць свабодна пераключацца з адной на другую (з лепшых узораў — С. Шушкевіч).

Хвароба дае метастазы, грунтоўна забруджваючы русізмамі мову афіцыйна-беларускую. Слухаеш радыё і за галаву хапаешся: няўжо нашы журналісты універсітэты паканчалі? За пяць хвілін якой-небудзь экстрасэнсорна-магічнай перадачы сустрэнуцца тваіму вуху і «паравая баня», і «ангелы», і «хлябі нябесныя» і ўзаконеныя ўжо слоўнікамі «песнапенні» і г.д. і да т.п.

Чытаеш родную «Звязду», дзе хлопцы таленавітыя працуюць, і дзіву даешся: няўжо ў Менску талковага карэктара ды перакладчыка не знайсці? Калі ўжо вывучаць нашы універсітэты канчаткі меснага склону?

Не кажу ўжо пра тэлебачанне, дзе «па тэхнічным прычынам» журналістам даводзіцца выступаць «па свабоднаму мікрафону», якое час ад часу падносіць крыўдныя адкрыцці: то эстрадны спявак, аказваецца, па-беларуску толькі спявае, а не размаўляе, то не меней славутая оперная спявачка — таксама «бутафорная» беларуска.

Апошнім жа часам тэлебачанне падхапіла модны стыль «нашым—вашым»; які ўжо даўно пануе ў прэсе і на радыё. Маю на ўвазе так званае «двухмоўе». Што ні возьмеш газету ці часопіс — паўсюль рус-бел-рус-калейдаскоп. Я іх здраднікамі ды дзяшоўкамі называю. Мы з жонкай (дарэчы, яна руская) такія вырашылі не выпісваць: ад пярэстай «пераключкі» з мовы на мову нервовая сістэма стамляецца, а стрэсаў і без таго хапае. Вось і з «Работніцай і сялянкай» развітацца давядзецца. Не верыцца, што двухмоўе дадало ёй чытачоў за мяжой. Памятаецца, у далёкім Амурску нашы сябры з задавальненнем выпісвалі яе і ў беларускім абліччы.

Рыба гніе з галавы. Вось ужо і наша раёнка, па прыкладу вышэйшых, пайшла ляпіць вашым — нашым, хаця ёй на замежжа і не даводзіцца разлічваць. Беларуская адвеку, яна калі і друкавала што па-руску, дык вершы рэдкіх у нас рускамоўных паэтаў мясцовага маштабу. А зараз, глядзіш, і праграмы ТБ, і тое-сёе з аб'яў, а то і цэлыя артыкулы. Ды яшчэ на апошняй старонцы ўнізе: «Учредитель: районный Совет народных депутатов... Республика Беларусь. На белорусском языке». Что бы это значило?

На радыё дык, мусіць, спецыяльна дамовіліся: калі суразмоўца-сялянка па-беларуску гаворыць, то журналіст з ёй абавязкова па-руску, а калі журналіст па-наску, то міністр з ім — на рускай (час бы ўжо гэткіх міністраў... Але гэта ўжо іншая тэма).

А цяпер і на тэлебачанні. Уключаеш «Калыханку» — Воўк і Заяц па-беларуску размаўляюць. Але вось прыходзіць «доктарка», жывая. І пытанне: «Ну-ка, давай горлышко посмотрю!» І г. д. Потым Воўк з Зайцам дамаўляюцца па-беларуску чытаць вершы і чытаюць... па-руску. Нарэшце, пачынаецца мульцік, агучаны па-беларуску. Але як! Дасюль у вушах стаіць крык папугая: «Кашмар-р! Пазор-р!»

Сапраўды, і «кашмар», і «пазор». Як ад іх пазбавіцца? Забадай іх рыжая карова!

г. Верхнядзвінск.

# *Справаздача мастака*

*Імпрэзы*

**Творчасць самабытнага мастака Рыгора Маліноўскага з вёскі Рудня, што ў Бялыніцкім раёне, знаходзіць усё большае кола ўдзячных прыхільнікаў. Нядаўна Рыгор Макаравіч прадставіў на раённую выставу некалькі сваіх карцін, якія тэматычна звязаны з творчасцю славутага земляка Вітольда Каятанавіча Бялыніцкага-Бірулі.**

**Несумненна, што усе, хто наведае выставу карцін Рыгора Маліноўскага, атрымаюць не толькі эстэтычнае задавальненне, але і нібыта пабываюць на радзіме выдатнага беларускага пейзажыста Бялыніцкага-Бірулі, якому сёлета ў лютым споўнілася б 122 гады.**

**М. КАРПЕНКА.**

## На сцэне — «Цудоўная дудка»



Ужо не першы год нязменным поспехам гледачоў карыстаецца спектакль паводле п'есы Віталя Вольскага «Цудоўная дудка» ў пастаноўцы Гарадзенскага абласнога тэатра лялек.

НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля.

Фота Ярослава ВАНЮКЕВІЧА.

## Нацыянальная канферэнцыя на праблемах беларускай навуковай тэрміналогіі адбудзецца ў траўні

4—6 траўня сёлета адбудзецца Першая нацыянальная канферэнцыя «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі». Разам з заяўкамі на ўдзел у яе працы паступаюць розныя прапановы. Адны з іх тычацца папярэдняга абмеркавання тэрміналагічных пытанняў па канкрэтных галінах навукі і тэхнікі.

Нагадаю, што бягучыя пытанні навуковай тэрміна-творчасці і укладання рознагаліновых слоўнікаў разглядаюцца на пасяджэннях секцый і тэрміналагічнай камісіі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Дзверы аўдыторый № 310 у галоўным корпусе Беларускага дзяржаўнага універсітэта і № 219 у галоўным корпусе Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта, дзе праводзіцца пасяджэнні камісіі, заўжды адчыненыя для ўсіх зацікаўленых. Тэлефануйце: 39-50-61 і 39-44-77, каб даведацца пра час і тэматыку пасяджэнняў. А хто мае жаданне ўдзельнічаць у абмеркаванні вузкагаліновых навукова-тэрміналагічных пытанняў, калі ласка, звяртайцеся ў адпаведныя секцыі камісіі ТБМ. Ніжэй пададзена структура камісіі і каардынаты тых секцый і творчых груп, дзе праца вядзецца ці пачата.

Я. СТАПАНОВІЧ,
старшыня аргкамітэта канферэнцыі.

*СТРУКТУРА ТЭРМІНАЛАГІЧНАЙ КАМІСІІ ТБМ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ*

*СЕКЦЫІ:*

1. Мовазнаўчая (Павал Міхайлаў: 68-79-27, Вінцук Вячорка: 31-48-93).

2. Грамадазнаўчая (Мікола Анцыповіч: 32-29-22, 49-92-47).

ТВОРЧЫЯ ГРУПЫ:
— філасофіі
— юрыспрудэнцыі
— гістарычная
— вайсковая (Станіслаў Суднік)
— справаводства (Алесь Каўрус: 68-79-27)
— анамастычная (Сымон Барыс: 29-35-81)
— спартыўная.

3. Тэалагічная (Ян Матусевіч: 51-63-26).

4. Эканамічная (Глафіра Савіцкая: 21-71-50).

ТВОРЧЫЯ ГРУПЫ:
— фінансава-бухгалтарская (Алесь Місуна)
— гандлёвая.

5. Тэхнічная (Рамаш Тамілін: 66-05-34).

ТВОРЧЫЯ ГРУПЫ:
— агульнатэхнічная
— інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі (Мікола Савіцкі: 49-19-81, 21-71-50).

6. Фізічная (Ігар Сташкевіч: 20-59-88; Сяргей Чаранкевіч: 26-58-36, 31-94-85).

7. Матэматычная (Васіль Бернік: 39-49-61, 63-34-31).

8. Біялагічная (Язэп Стапановіч: 39-50-61, 54-19-43; Зміцер Санько: 64-03-74, 69-00-75).

ТВОРЧЫЯ ГРУПЫ:
— батанікі (Зміцер Траццякоў: 31-95-31)
— заалогіі (Алег Александровіч: 20-88-46, 32-22-34)
— мікрабіялогіі (Лявон Мішын: 63-61-17)
— мікалогіі (Галіна Сяржаніна)
— агульнай біялогіі (Мікола Лісаў: 26-47-65, 66-26-78).

9. Медычная (Віталь Кошалеў: 66-57-34, 72-54-79; Алег Стасевіч: 62-93-75)

ТВОРЧЫЯ ГРУПЫ:
— медыцыны
— фізіялогіі
— фармацэўтыкі.

10. Сельскагаспадарчая (Святлана Бельская: 39-44-77, 20-63-08).

ТВОРЧЫЯ ГРУПЫ:
— пладаводства і агароднiцтва
— паляводства і лугаводства
— генетыкі і цыталогіі (Ала Яцэвіч: 39-49-02, 47-06-24).

11. Хімічная (Яраслаў Міляшкевіч: 27-63-54, 31-70-87).

ТВОРЧЫЯ ГРУПЫ:
— агульнай хіміі
— біяхіміі.

12. Геаграфічная (Міхась Нагорны: 63-59-02, 65-81-83).

ТВОРЧЫЯ ГРУПЫ:
— геаграфіі (Сяргей Сідор» 96-11-85)
— геалогіі (Міхась Нагорны: гл. вышэй)
— экалогіі (Рыгор Сачок: 64-51-52, 51-19-51).

13. Архітэктурна-будаўнічая (вакантная).

Старшыня камісіі — Язэп Стапановіч: тэл. гл. вышэй.
Намеснік старшыні — Аляксей Глушко: 68-70-76, 31-90-88.
Намеснік старшыні — Павал Міхайлаў: тэл. гл. вышэй.
Навуковы сакратар — Святлана Бельская: тэл. гл. вышэй.

Дадзеная структура зацверджана 3 лістапада 1993 г. Тэрміналагічная камісія працуе на грамадскай аснове.

## УВАГА!

З улікам запозненага атрымання шэрагам зацікаўленых інфармацыі пра Першую нацыянальную канферэнцыю «Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі», якая адбудзецца 4—6 траўня 1994 г. у Менску, і іх просьбаў, аргкамітэтам канферэнцыі прынята рашэнне падоўжыць тэрмін падачы заявак на ўдзел у яе працы да 20 сакавіка сёлета.

Аргкамітэт нагадвае, што разам з заяўкай, назовам даклада (паведамлення) і кароткай анатацыяй зместу аб'ёмам да 200 знакаў неабходна даслаць звесткі пра сябе: імя і прозвішча, месца працы і пасада, вучоная ступень, навуковае званне, службовы і хатні адрасы, тэлефоны, патрэба ў гатэлі. Наш адрас: 220005, Менск, вул. Румянцава, 13, ТБМ імя Ф. Скарыны, аргкамітэт тэрміналагічнай канферэнцыі. Тэлефоны: 33-25-11, 39-50-61.

## АФАРЫЗМЫ

*Душан РАДАВІЧ*

Заўжды лепш Там, як Тут, і заўжды лепш Тое, як Гэта. Не шанцуе нам на тое, што маем.

Час праходзіць, і мы, старэючы, адыходзім.

Спачатку страцілі чацвёртага на покер, потым трэцяга на прэферанс, потым другога на рамс...

Цяпер раскладаем пасьянс, каб пабачыць, што будзе з намі.

Не кажыце таго, што думаеце, калі жывяце ад таго, што кажаце.

Мы змагаліся ды сталіліся. Застаецца толькі абараняць тое, чаго дамагліся.

Быць марксістам ёсць сэнс толькі тады, калі вы разумны.

Добра ім там. А мы тут не ведаем нават, як называцца.

Дзе-хто жыве ад продажу цэлафанавых пакетаў, пры гэтым не ведае, як быць ад шчасця і здавальнення.

Дзе-хто купляе гэтыя пакеты і тое, з-за чаго купляе пакеты, але ніяк не можа знайсці прычыны, каб здаволіцца.

Кожны лекар — як Вільгельм Тэль: павінен мець і веды і вопыт, каб знішчыць хваробу, а не чалавека.

Хвароба ж часцей за ўсё малая, а чалавек значна большы. Суцяшае толькі тое, што хвароба не пераўжывае памылкі лекара.

Не важна, працуе нехта, ці не.

Важны толькі вынік.

Неразумна ашчаджаць электраэнергію.

Ашчаджаеш, ашчаджаеш і ўсё роўна нічога не заўважыш.

Пераклаў з сербскахарвацкай Іван ЧАРОТА.

## ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!

Нагадваем Вам месцазнаходжанне шапікаў (кіёскаў) ТБМ імя Ф. Скарыны ў Менску.

1. Праспект Ф. Скарыны (каля нац. банка, насупраць ГУМа).
2. Плошча Прытыцкага (каля крамы «Кветкі»).
3. Шабаны, вул. Ротмістрава, дыспетчарская станцыя «Шабаны»).

У нашых шапіках Вы зможаце набыць руска-беларускі, ангельска-беларускі і беларуска-ангельскі слоўнікі, выдадзеныя ТБМ імя Ф. Скарыны, іншую літаратуру на роднай мове. Таксама ў нас шырокі выбар народных вырабаў і нацыянальных сувеніраў.

Купляючы тавары ў шапіках ТБМ, вы фінансава дапамагаеце дзейнасці Таварыства.




Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон: 33-17-83





Індэкс 63865. Зак. 64.

МВПА імя Якуба Коласа, Менская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка», 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Індэкс 63865.

Наклад 8948 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 4.03.1994 г. у 15 гадзін.